ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 14 (2540)
ПЯТНІЦА
2
красавіка 1971

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

**НАША МЭТА—ЗРАБІЦЬ ЖЫЦЦЁ САВЕЦКІХ ЛЮДЗЕЙ ЯШЧЭ ЛЕПШЫМ, ЯШЧЭ ПРЫГАЖЭЙШЫМ, ЯШЧЭ ШЧАСЛІВЕЙШЫМ. МЫ ІДЗЁМ НАСУСТРАЧ НОВЫМ ГАДАМ САМААДДАНАЙ І НАТХНЁНАЙ ПРАЦЫ, ПРАЦЫ З ПОЎНАЙ АДДАЧАЙ УСІХ ТВОРЧЫХ СІЛ. ДЛЯ НАС ГЭТА — АДЗІНЫ ШЛЯХ ДА ДАБРАБЫТУ І ШЧАСЦЯ, СВЕТЛАГА КАМУНІСТЫЧНАГА БУДУЧАГА.**

(Са Справаздачнага даклада ЦК КПСС XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза)



МАСКВА. XXIV З'ЕЗД КПСС. НА ЗДЫМКУ: У ПРЭЗІДЫУМЕ З'ЕЗДА.

Фота В. Ягорава. (ТАСС).

**СЁННЯ ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ** ў жыцці ўсяго савецкага народа, у жыцці працоўнага люду планеты — XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

4.949 дэлегатаў — прадстаўнікоў больш чым чатырнаццаці мільённай арміі камуністаў Краіны Саветаў сабраліся ў Крамлёўскі Палац з'ездаў на свой вышэйшы форум, каб падвесці вынікі стваральнай працы партыі пасля яе XXIII з'езда, вызначыць новыя канкрэтныя задачы камуністычнага будаўніцтва.

З'езды ленінскай партыі заўсёды былі важнымі вяхамі ў развіцці першай у гісторыі сацыялістычнай дзяржавы, у жыцці савецкага народа — будаўніка камунізма. Да свайго XXIV з'езда Камуністычная партыя прыйшла яшчэ больш загартаванай, маналітна адзінай, згуртаванай ідэйна і арганізацыйна.

— Паспяховае правядзенне генеральнай лініі Камуністычнай партыі, сфармуляванай у яе Праграме, у рашэннях XXIII з'езда, — сказаў ва ўступнай прамове на з'ездзе член Палітбюро ЦК КПСС М. В. Падгорны, — дало магчымасць яшчэ цясней згуртаваць рабочых, сялян, інтэлігенцыю вакол партыі, зрабіць яшчэ больш трывалымі вялікую дружбу народаў нашай краіны, адзінства шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы.

Створаная Леніным, як партыя пралетарыяту, як перадавы атрад рабочага класа, КПСС з перамогай сацыялізма стала авангардам усяго савецкага народа. У часы цяжкіх выпрабаванняў, у гады мірнага будаўніцтва ўсе свае перамогі савецкія людзі звязваюць з Камуністычнай партыяй.

Савецкія людзі ганарацца тым, што КПСС — адзін з прызнаных актыўных атрадаў сусветнага камуністычнага руху. Ці не яркае сведчанне гэтага — удзел у рабоце XXIV з'езда 101 дэлегацыі камуністычных, нацыянальна-дэмакратычных і левых сацыялістычных партый з 90 краін свету!

У дакладзе, які зрабіў Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Ільіч Брэжнеў, падведзены вынікі велізарнай палітычнай і арганізатарскай дзейнасці партыі, яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта, навукова абгрунтаваны перспектывы чарговага этапа будаўніцтва камунізма, дадзены глыбокі аналіз сучаснага міжнароднага становішча.

...Сёння чацвёрты дзень работы з'езда. Дэлегаты абмяркоўваюць справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС і справаздачны даклад Цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

Вышэйшы орган партыі абмяркуе і народнагаспадарчыя задачы на бліжэйшую пяцігодку, задачы, якія вызначаны ў праекце Дырэктыў XXIV з'езда КПСС. З дакладам па гэтым пытанні выступіць Старшыня Савета Міністраў СССР Аляксей Мікалаевіч Касыгін.

Як заўсёды, партыя перад з'ездам раілася з народам, яна вынесла праект Дырэктыў на шырокае абмеркаванне ў заводскія і фабрычныя калектывы, калгасы і саўгасы, навуковыя і культурныя ўстановы. У прапановах, якія там нарадзіліся, выказаны багаты вопыт мільёнаў.

У гэтыя дні па ўсёй нашай неабсяжнай краіне праходзяць мітынгі, сходы, на якіх гарнякі і хлебаробы, металургі і чыгуначнікі, дзеячы літаратуры і мастацтва абмяркоўваюць матэрыялы XXIV з'езда КПСС.

Разам з усімі савецкімі людзьмі горача вітаюць з'езд партыі і працоўныя нашай рэспублікі, знаёмячыся з дакументамі з'езда, яны радуюцца высокім рубяжам, якія бярэ ў новым пяцігоддзі савецкі народ, новым велічным даляглядам, якія адкрываюцца перад роднай Беларуссю.



# СПРАВАЗДАЧНЫ ДАКЛАД ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС XXIV З'ЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

## ДАКЛАД ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ЦК ТАВАРЫША Л. І. БРЭЖНЕВА 30 сакавіка 1971 года

З часу XXIII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза мінула пяць гадоў.

Гэта былі гады напружанай працы нашага народа. Ажыццяўляючы планы, намечаныя партыяй, савецкія людзі дабіліся буйных поспехаў на ўсіх асноўных напрамках камуністычнага будаўніцтва.

Гэта былі гады, калі наша сацыялістычная эканоміка зрабіла новы вялікі крок наперад. Значна павялічыўся аб'ём прамысловай вытворчасці. Упэўнена расла сельская гаспадарка. Дасягнуты новыя рубяжы ў развіцці навукі і тэхнікі, ва ўсё больш шырокіх маштабах асвойваліся іх навейшыя дасягненні. На гэтай аснове нам удалося істотна прайсці наперад у тым напрамку, які ў канчатковым выніку выражае галоўны сэнс дзейнасці КПСС, — у напрамку далейшага ўздыму дабрабыту і культуры ўсяго савецкага народа.

Гэта былі гады паспяховага развіцця сацыялістычных грамадскіх адносін і савецкай дэмакратыі, гады далейшага росквіту брацкай дружбы народаў СССР, значнага ўмацавання палітычнай і абароннай магутнасці нашай вялікай Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У галіне міжнароднага развіцця гэта былі гады вялікіх сацыяльна-палітычных змен, гады вострага процілборства паміж сіламі міру, свабоды, прагрэсу і сіламі прыгнёту, рэакцыі і агрэсіі. Гарызонты планеты не раз зацягваліся хмарамі ваеннай небяспекі. Але ўсякі раз імперыялістычныя замахі сустракалі рашучы адпор.

Савецкі Саюз і брацкія сацыялістычныя краіны ўнеслі вялікі і актыўны ўклад у барацьбу за мір і бяспеку народаў. Міжнародныя пазіцыі нашай Радзімы сталі яшчэ больш надзейнымі, узрасла роля сусветнай сістэмы сацыялізма. Працягваў мацнець і паглыбляцца вялікі саюз трох асноўных рэвалюцыйных сіл сучаснасці — сацыялізма, міжнароднага рабочага руху і нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў.

Мінулае пяцігоддзе было перыядам далейшага росту і ўмацавання нашай вялікай ленінскай партыі, далейшага ўмацавання яе сувязей з народам, узрастання яе кіруючай ролі ва ўсім жыцці савецкага грамадства. Партыі даводзілася вырашаць у гэтыя гады нямала складаных задач. Абагульняючы набыты вопыт камуністычнага будаўніцтва, партыя выпрацавала прынцыповы, рэалістычны курс палітыкі, з адабрэннем сустрэты і аднадушна падтрыманы ўсім савецкім народам.

Гэта былі гады велізарнага палітычнага ўздыму і працоўнага энтузіязму савецкіх людзей у сувязі з вялікімі юбілеямі — пяцідзесяцігоддзем Кастрычніцкай рэвалюцыі і стагоддзем з дня нараджэння У. І. Леніна, — гады ўсё больш актыўнага ўдзелу шырокіх мас працоўных у практычным ажыццяўленні планаў, намечаных партыяй. Усе савецкія людзі ўспрымаюць XXIV з'езд Камуністычнай партыі як выдатную падзею ў сваім жыцці, сустракаюць яго канкрэтнымі справамі, новымі вялікімі дасягненнямі.

Поўная энергіі, узбагачаная новым вопытам і маналітна згуртаваная, добра ўсведамляючы ўсё значэнне і маштабы ўжо дасягнутага, упэўненая ў сваіх сілах і правільнасці намечаных перспектыў далейшага руху наперад, прыйшла наша ленінская партыя да свайго XXIV з'езда.

## I. МІЖНАРОДНАЕ СТАНОВІШЧА СССР. ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ КПСС

Савецкі Саюз — міралюбівая дзяржава, гэта вызначаецца самім характарам нашага сацыялістычнага ладу. Мэты савецкай знешняй палітыкі, як іх сфармуляваў XXIII з'езд КПСС, заключаюцца ў тым, каб забяспечыць разам з іншымі сацыялістычнымі краінамі спрыяльныя міжнародныя ўмовы для пабудовы сацыялізма і камунізма; мацаваць адзінства і згуртаванасць сацыялістычных краін, іх дружбу і брацтва; падтрымліваць нацыянальна-вызваленчы рух і ажыццяўляць усебаковае супрацоўніцтва з маладымі дзяржавамі, якія сталі на шлях развіцця; паслядоўна адстойваць прынцып мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам, даваць рашучы адпор агрэсіўным сілам імперыялізму, збавіць чалавецтва ад новай сусветнай вайны.

Уся практычная дзейнасць ЦК у галіне міжнароднай палітыкі была накіравана на дасягненне гэтых мэт.

Таварыш Л. І. Брэжнеў падрабязна ахарактарызаваў пытанні далейшага развіцця дружбы і супрацоўніцтва сацыялістычных краін.

Ён гаворыць: у цэнтры ўвагі ЦК пастаянна знаходзіліся пытанні далейшага згуртавання і развіцця сусветнай сацыялістычнай сістэмы, адносіны з брацкімі краінамі сацыялізма, з іх камуністычнымі партыямі. Сусветнай сістэме сацыялізма чвэрць стагоддзя. З пункту гледжання развіцця рэвалюцыйнай тэорыі і практыкі гэтыя гады былі выключна плённыя. Сацыялістычны свет даў камуністычнаму і рабочаму руху вопыт, які мае велізарнае, сапраўды гістарычнае значэнне.

Асаблівае значэнне КПСС надавала развіццю **супрацоўніцтва з камуністычнымі партыямі брацкіх краін.**

Справаздачны перыяд азнаменаваўся сур'ёзнымі поспехамі ў справе **каардынацыі знешнепалітычнай дзейнасці** брацкіх партый і дзяржаў.

Галоўным цэнтрам каардынацыі знешнепалітычнай дзейнасці брацкіх краін служыла і служыць арганізацыя Варшаўскага дагавору.

У выніку калектыўнай выпрацоўкі і ажыццяўлення раду мер у апошнія гады ўдасканальвалася **ваенная арганізацыя Варшаўскага дагавору.** Узброеныя сілы саюзных дзяржаў знаходзяцца ў высокай ступені гатоўнасці і могуць гарантаваць мірную працу брацкіх народаў.

Не меншае значэнне мае і **супрацоўніцтва ў эканамічнай галіне**, пашырэнне і паглыбленне народнагаспадарчых сувязей краін сацыялізма.

Таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць далей аб неабходнасці паглыбляць спецыялізацыю і кааперацыю вытворчасці, цясней увязваць народнагаспадарчыя планы, рухацца па шляху эканамічнай інтэграцыі сацыялістычных дзяржаў.

У перыяд паміж XXIII і XXIV з'ездамі наша партыя праяўляла вялікія клопаты аб умацаванні **двухбаковых адносін Савецкага Саюза з** сацыялістычнымі дзяржавамі.

Цеснае і рознабаковае супрацоўніцтва, дружба і сардэчнасць характэрныя для нашых адносін з краінамі-ўдзельніцамі Варшаўскага дагавору — Балгарыяй, Венгрыяй, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай, Польшчай, Румыніяй і Чэхаславакіяй.

Непахісная наша дружба з Польскай Народнай Рэспублікай. Мы з глыбокім задавальненнем адзначаем, што ў брацкай Польшчы былі пераадолены ўзнікшыя там цяжкасці. Польская аб'яднаная рабочая партыя ажыццяўляе меры, накіраваныя на тое, каб ўмацоўваліся яе сувязі з рабочым класам і ўсімі працоўнымі, станавіліся ўсё больш трывалымі пазіцыі сацыялізма ў краіне.

Адносіны сацыялістычнай салідарнасці і моцнай баявой дружбы звязваюць нашу партыю, савецкі народ з партыяй працоўных В'етнама, з Дэмакратычнай Рэспублікай В'етнам. Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам можа быць упэўнена, што і ва ўзброенай барацьбе, і ў мірнай працы яна можа і ў далейшым разлічваць на брацкую падтрымку Савецкага Саюза.

Цэнтральны Камітэт за гэтыя гады ўдзяляў пастаянную ўвагу ўмацаванню супрацоўніцтва з рэспублікай Куба, з кампартыяй Кубы.

Вось ужо паўвека КПСС, Савецкая дзяржава звязана моцнай выпрабаванай дружбай з Мангольскай Народна-рэвалюцыйнай партыяй, з Мангольскай Народнай Рэспублікай.

За апошнія гады пашырыліся нашы сувязі з Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай, з працоўнай партыяй Карэі, што, як мы перакананы, адпавядае інтарэсам народаў абедзвюх краін.

У справаздачны перыяд працягвалі развівацца савецка-югаслаўскія адносіны.

Аб нашых адносінах з Кітайскай Народнай Рэспублікай. Кітайскія кіраўнікі, як вядома, выступілі са сваёй асобай, несумяшчальнай з ленінізмам ідэйна-палітычнай платформай па асноўных пытаннях міжнароднага жыцця і сусветнага камуністычнага руху, а ад нас патрабавалі адмовы ад лініі XX з'езда і праграмы КПСС. Яны разгарнулі інтэнсіўную варожую прапаганду супраць нашай партыі і краіны, выставілі тэрытарыяльныя прэтэнзіі ў адносінах да Савецкага Саюза і нават давялі справу да ўзброеных інцыдэнтаў на граніцы вясной і летам 1969 года.

Наша партыя рашуча выступіла супраць спроб сказіць вучэнне марксізма-ленінізма, унесці раскол у міжнародны камуністычны рух, у рады барацьбітоў супраць імперыялізму. Захоўваючы стрыманасць і не паддаючыся на правакацыі, ЦК КПСС і Савецкі ўрад рабілі ўсё, што ад нас залежыць, каб дабіцца нармалізацыі адносін з Кітайскай Народнай Рэспублікай.

За апошнія паўтара гады ў выніку ініцыятывы, праяўленай з нашага боку, з'явіліся прыкметы некаторай нармалізацыі ў адносінах паміж СССР і КНР. У верасні 1969 года мела месца сустрэча кіраўнікоў урадаў абедзвюх краін, пасля якой пачаліся перагаворы ў Пекіне паміж урадавымі дэлегацыямі па ўрэгуляванні пагранічных пытанняў. Перагаворы гэтыя ідуць марудна, і для іх паспяховага завяршэння, зразумела, патрэбна канструктыўная пазіцыя не толькі аднаго боку.

У канцы мінулага года паміж СССР і КНР адбыўся абмен пасламі, пасля значнага перапынку падпісаны гандлёвыя пагадненні, крыху вырас таваараабарот. Гэта карысныя крокі, мы гатовы дзейнічаць і далей у тым жа напрамку.

Але, з другога боку, мы, вядома, не можам не бачыць таго, што антысавецкая лінія ў прапагандзе і палітыцы Кітая працягваецца, прычым IX з'езд КПК замацаваў у сваіх рашэннях гэты варожы Савецкаму Саюзу курс.

Што можна сказаць у сувязі з гэтым?

Мы рашуча адмятаем паклёпніцкія выдумкі адносна палітыкі нашай партыі і дзяржавы, якія распаўсюджваюцца з Пекіна і ўнушаюцца кітайскаму народу. Сеяць разлад паміж Кітаем і СССР тым больш абсурдна і шкодна, што гэта адбываецца ў абстаноўцы, калі імперыялісты актывізуюць свае агрэсіўныя дзеянні супраць свабодалюбівых народаў. Становішча больш чым калі-небудзь патрабуе згуртавання, сумесных дзеянняў усіх антыімперыялістычных, рэвалюцыйных сіл, а не раздування варожасці паміж такімі дзяржавамі, як СССР і Кітай.

Мы не адмовімся ад нацыянальных інтарэсаў Савецкай дзяржавы. КПСС і далей будзе нястомна змагацца за згуртаванасць сацыялістычных краін і сусветнага камуністычнага руху на марксісцка-ленінскай аснове. Разам з тым наша партыя і Савецкі ўрад глыбока перакананы, што паляпшэнне адносін паміж Савецкім Саюзам і Кітайскай Народнай Рэспублікай адпавядала б карэнным, доўгачасным інтарэсам абедзвюх нашых краін, інтарэсам сацыялізма, свабоды народаў і ўмацавання міру. Таму мы гатовы ўсямерна садзейнічаць не толькі нармалізацыі адносін, але і аднаўленню добрасуседства і дружбы паміж Савецкім Саюзам і Кітайскай Народнай Рэспублікай і выказваем упэўненасць, што ў канчатковым выніку гэта будзе дасягнута.

Такая наша прынцыповая пазіцыя. Мы неаднаразова аб ёй заяўлялі, цвёрда яе прытрымліваемся і пацвярджаем на практыцы.

Што датычыць Албаніі, то мы, як і раней, гатовы да аднаўлення нармальных адносін з ёй. Гэта было б карысна як для абедзвюх нашых краін, так і для агульных інтарэсаў сацыялістычных дзяржаў.

Немалое месца ў міжнародных падзеях апошніх гадоў заняў палітычны крызіс у Чэхаславакіі. Чэхаславацкія падзеі зноў напомнілі аб тым, што ў краінах, якія сталі на шлях будаўніцтва сацыялізма, унутраныя антысацыялістычныя сілы, якія захаваліся яшчэ ў той ці іншай меры, могуць пры пэўных умовах актывізавацца і нават дайсці да прамых контррэвалюцыйных дзеянняў у разліку на падтрымку звонку, з боку імперыялізму, які, у сваю чаргу, заўсёды гатоў да блакіравання з такімі сіламі.

З усёй відавочнасцю праявілася ў гэтай сувязі небяспека правага рэвізіянізму, які пад выглядам «паляпшэння» сацыялізма імкнецца выхаласціць рэвалюцыйную сутнасць марксізма-ленінізма і расчышчае шлях для пранікнення буржуазнай ідэалогіі.

Чэхаславацкія падзеі пераканаўча паказалі, як важна пастаянна ўмацоўваць кіруючую ролю партыі ў сацыялістычным грамадстве, няспынна ўдасканальваць формы і метады партыйнага кіраўніцтва, праяўляць творчы марксісцка-ленінскі падыход да вырашэння наспеўшых праблем развіцця сацыялізма.

Нам было зразумела, што гаворка ішла не толькі аб спробе імперыялізму і яго прыхільнікаў звергнуць сацыялістычны лад у Чэхаславакіі. Гаворка ішла і аб спробе нанесці такім шляхам удар па пазіцыях сацыялізма ў Еўропе ў цэлым, стварыць спрыяльныя ўмовы для наступнага націску на сацыялістычны свет з боку найбольш агрэсіўных сіл імперыялізму.

Улічваючы звароты партыйных і дзяржаўных дзеячоў, камуністаў, працоўных Чэхаславакіі і прымаючы пад увагу небяспеку, якая стварылася для заваёў сацыялізма ў гэтай краіне, мы разам з брацкімі сацыялістычнымі краінамі прынялі тады рашэнне аказаць Чэхаславакіі інтэрнацыянальную дапамогу ў абароне сацыялізма. У надзвычайных умовах, створаных сіламі імперыялізму і контррэвалюцыі, нас абавязвалі да гэтага наш класавы абавязак, вернасць сацыялістычнаму інтэрнацыяналізму, клопаты аб інтарэсах нашых дзяржаў, аб лёсе сацыялізма і міру ў Еўропе.

Пленум ЦК КПЧ у дакуменце «Урокі крызіснага развіцця» даў, як вядома, такую ацэнку значэння калектыўнай дапамогі брацкіх дзяржаў:

«Уступленне саюзніцкіх войск пяці сацыялістычных краін у Чэхаславакію было актам інтэрнацыянальнай салідарнасці, адпавядаючым як агульным інтарэсам чэхаславацкіх працоўных, так і інтарэсам міжнароднага рабочага класа, сацыялістычнай садружнасці і класавым інтарэсам міжнароднага камуністычнага руху. Гэты інтэрнацыянальны акт выратаваў жыццё тысяч людзей, забяспечыў унутраныя і знешнія ўмовы для мірнай і спакойнай працы, умацаваў заходнія граніцы сацыялістычнага лагера і разбурыў надзеі

імперыялістычных колаў на перагляд вынікаў другой сусветнай вайны».

Мы падзяляем вывад, да якога прыйшла Кампартыя Чэхаславакіі. Жыццёвы вопыт яшчэ раз пераканаўча паказаў, што брацкае адзінства сацыялістычных краін ёсць самы надзейны бар'ер на шляху сіл, якія спрабуюць атакаваць, аслабіць лагер сацыялізма, падарваць і звесці на нішто сацыялістычныя заваёвы працоўных. Народы сацыялістычных краін ясна дэманструюць усяму свету, што сваіх рэвалюцыйных заваёў яны не аддадуць, што граніцы сацыялістычнай садружнасці непарушныя і недатыкальныя.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза лічыла і лічыць сваім інтэрнацыянальным абавязкам усямерна садзейнічаць далейшаму росту магутнасці сусветнай сістэмы сацыялізма.

На XXIII з'ездзе, а потым — у радзе сваіх дакументаў, гаворыць далей таварыш Л. І. Брэжнеў, наша партыя ўжо давала разгорнутую ацэнку сучаснага імперыялізму. Марксісцка-ленінскі аналіз сучасных яго асаблівасцей змяшчаецца ў матэрыялах Міжнароднай камуністычнай нарады 1969 года.

**Агульны крызіс капіталізму працягвае паглыбляцца**. Ні працэсы інтэграцыі, ні класавая зацікаўленасць імперыялістаў у аб'яднанні намаганняў для барацьбы супраць сусветнага сацыялізма не ліквідавалі супярэчнасцей паміж імперыялістычнымі дзяржавамі. Да пачатку 70-х гадоў выразна вызначыліся асноўныя цэнтры імперыялістычнага суперніцтва: гэта ЗША — Заходняя Еўропа (перш за ўсё — шасцёрка краін «агульнага рынку») — Японія. Паміж імі ўсё вастрэй разгортваецца эканамічная і палітычная канкурэнтная барацьба.

Знешняя палітыка імперыялізму за мінулае пяцігоддзе дала новыя доказы нязменнасці яго рэакцыйнай, агрэсіўнай прыроды.

У гэтай сувязі трэба перш за ўсё сказаць аб амерыканскім імперыялізме, які за апошнія гады зноў пацвердзіў сваё імкненне адыгрываць ролю своеасаблівага гаранта і ахоўніка міжнароднай сістэмы эксплуатацыі і прыгнёту. Ён імкнецца панаваць усюды, умешваецца ў справы іншых народаў, бесцырымонна парушае іх законныя правы і суверэнітэт, сілай, подкупам, эканамічным пранікненнем спрабуе навязаць сваю волю дзяржавам і цэлым раёнам свету.

Трэба мець на ўвазе і той факт, што ў пасляваенныя гады ў капіталістычным свеце ў небывалых маштабах адбываецца рост мілітарызму. Гэтая тэндэнцыя яшчэ больш узмацнілася за апошні час. Толькі за адзін 1970 год краіны НАТО ўклалі ў падрыхтоўку вайны 103 млрд. долараў. Найбольш небяспечны характар мілітарызацыя набыла ў ЗША. За апошнія пяць гадоў у гэтай краіне выдаткавана на ваенныя мэты каля 400 мільярдаў долараў.

Няма такіх злачынстваў, на якія не ішлі б імперыялісты, спрабуючы захаваць або аднавіць сваё панаванне над народамі былых калоній або іншых краін, якія вырываюцца з ціскоў капіталістычнай эксплуатацыі. І галоўнае са злачынстваў сучасных каланізатараў, ганьба Амерыкі — гэта агрэсія ЗША, якая працягваецца, супраць народаў В'етнама, Камбоджы, Лаоса.

Спробы імперыялізму павярнуць ход гісторыі на сваю карысць асуджаны на правал — у гэтым у нас няма сумненняў. Аднак мы, камуністы, добра ведаем, што самасупакоенасці і пасіўнасці няма месца. Барацьбітам супраць капіталістычнага прыгнёту процістаіць апошняя, але самая магутная з усіх існаваўшых эксплуататарскіх сістэм. Таму наперадзе — яшчэ цяжкая і доўгая барацьба. Але якой бы цяжкай ні была гэта барацьба, яна працягвае нарастаць, фронт яе няўхільна расшыраецца.

Сёння, як і ўчора, ролю выпрабаванага баявога авангарду рэвалюцыйных сіл адыгрывае **міжнародны рабочы рух.** Падзеі апошняга пяцігоддзя ў капіталістычным свеце ў поўнай меры пацвердзілі значэнне рабочага класа, як галоўнага і найбольш моцнага праціўніка ўлады манаполій, як цэнтра прыцягнення ўсіх антыманапалістычных сіл.

Нарада брацкіх партый, як вядома, зрабіла вывад аб тым, што цяперашнія буйныя бітвы рабочага класа з'яўляюцца прадвеснікамі новых класавых баёў, якія могуць прывесці да фундаментальных грамадскіх пераўтварэнняў, да устанаўлення ўлады рабочага класа ў саюзе з іншымі слаямі працоўных.

У той жа час імперыялізм падвяргаецца ўсё большаму напору сіл, якія выраслі з нацыянальна-вызваленчай барацьбы, перш за ўсё з боку маладых незалежных, антыімперыялістычна настроеных дзяржаў Азіі і Афрыкі.

Галоўнае заключаецца ў тым, што **барацьба за нацыянальнае вызваленне ў многіх краінах стала практычна перарастаць у барацьбу супраць эксплуататарскіх адносін як феадальных, так і капіталістычных.**

Што датычыць нашай краіны, то яна цалкам падтрымлівае гэту справядлівую барацьбу. Палітычнае і эканамічнае супрацоўніцтва СССР з краінамі, якія вызваліліся, атрымала за гэтыя гады далейшае развіццё.

Вялікія змены адбываюцца ў жыцці раду краін Лацінскай Амерыкі. Важнейшай падзеяй з'явілася перамога сіл народнага адзінства ў Чылі. Тут, упершыню за ўсю гісторыю кантынента, народ канстытуцыйным шляхам дабіўся стварэння такога ўрада, якога ён хоча і якому давярае. Супраць кабалы амерыканскіх манаполій змагаюцца ўрады Перу і Балівіі.

Поспех у барацьбе супраць імперыялізму ў многім залежыць ад згуртаванасці антыімперыялістычных сіл і перш за ўсё іх авангарду — **сусветнага камуністычнага руху.** За мінулыя пяць гадоў наша партыя разам з іншымі брацкімі партыямі прыклала нямала намаганняў, каб умацаваць гэту згуртаванасць, адзінства камуністычных радоў.

Задача гэта была складаная. Менавіта ў справаздачны перыяд з найбольшай вастрынёй выявіліся спробы з розных бакоў атакаваць марксізм-ленінізм як ідэйна-тэарэтычную аснову дзейнасці камуністычнага руху. Кітайскае кіраўніцтва перайшло да стварэння ў радзе краін пад шыльдай так званых «марксісцка-ленінскіх партый», раскольніцкіх груповак, яўна імкнучыся неяк аб'яднаць іх у процівагу міжнароднаму камуністычнаму руху. З гэтымі групоўкамі нярэдка блакіраваліся трацкісты. Сям-там актывізаваліся тэндэнцыі да нацыяналістычнай самаізаляцыі, ажывіўся як «левы», так і «правы» апартунізм.

Дабіцца павароту да згуртавання камуністычнага руху, да ўмацавання яго ідэйнай асновы — такая была галоўная мэта.

Далей таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць аб міжнароднай нарадзе камуністычных і рабочых партый. Нарада, сказаў ён, з'явілася буйным крокам наперад па шляху ўмацавання міжнароднага



адзінства камуністаў і кансалідацыі ўсіх антыімперыялістычных сіл. Яна многае зрабіла для развіцця раду палажэнняў марксісцка-ленінскай тэорыі ў дастасаванні да сучаснага становішча.

Велізарнае значэнне для згуртавання камуністычнага руху мела таксама святкаванне стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, якое прыняло сапраўды сусветны характар. Нарада Кампартый і ленінскі юбілей яшчэ і яшчэ раз паказалі жыццёвасць марксісцка-ленінскага вучэння і выклікалі ўздым актыўнасці брацкіх партый у барацьбе за інтарэсы рабочага класа і ўсіх працоўных, супраць імперыялізму і яго саўдзельнікаў у рабочым руху.

У цэлым ёсць падставы сказаць, што ўсё больш умацоўваецца згуртаванасць у міжнародным камуністычным руху, актывізуюцца плённыя двухбаковыя і шматбаковыя міжпартыйныя сувязі. Наша партыя вітае гэта. Яна будзе і ў далейшым садзейнічаць таму, каб справа ішла менавіта ў такім напрамку.

Але мы не можам упускаць з пад увагі і тую акалічнасць, што не ўсюды яшчэ пераадолены негатыўныя з'явы. Па-ранейшаму актуальная барацьба супраць «правага» і «левага» рэвізіянізму, супраць нацыяналізму. Менавіта на нацыяналістычныя тэндэнцыі, і асабліва тыя з іх, якія прымаюць форму антысаветызму, буржуазныя ідэолагі, буржуазная прапаганда ахвотней за ўсё робяць цяпер стаўку ў барацьбе супраць сацыялізма і камуністычнага руху. Яны падштурхоўваюць апартуністычныя элементы ў кампартыях да свайго роду ідэалагічнай здзелкі. Яны нібы гавораць ім: дакажыце, маўляў, што вы антысаветчыкі, а мы будзем гатовы абвясціць, што вы ж і ёсць сапраўдныя «марксісты» і займаеце зусім «самастойныя пазіцыі». Ход падзей паказвае, дарэчы, што такія людзі становяцца на шлях барацьбы і супраць кампартый у сваіх краінах. Прыклад таму — рэнегаты тыпу Гарадзі ў Францыі, Фішэра — у Аўстрыі, Петкава — у Венесуэле, дзеячоў групоўкі «маніфеста» ў Італіі. Барацьбу супраць такога роду элементаў брацкія партыі разглядаюць як важную ўмову ўмацавання сваіх радоў.

У барацьбе з імперыялізмам усё большую ролю адыгрываюць рэвалюцыйна-дэмакратычныя партыі, многія з якіх абвяшчаюць сацыялізм сваёй праграмнай мэтай. КПСС актыўна развівае сувязі з імі.

У адпаведнасці з лініяй міжнароднай нарады 1969 года КПСС гатова да развіцця супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратамі як у барацьбе за мір і дэмакратыю, так і ў барацьбе за сацыялізм, не адступаючы, зразумела, пры гэтым ад сваёй ідэалогіі, сваіх рэвалюцыйных прынцыпаў.

Камуністы Савецкага Саюза высока цэняць тую велізарную работу, якую праводзяць у сваіх краінах брацкія камуністычныя і рабочыя партыі. Мы добра ведаем, якая нялёгкая гэта работа, якой яна патрабуе самаадданасці, якой беззапаветнай адданасці нашым агульным вялікім ідэалам. Сёння мы хочам яшчэ раз запэўніць нашых саратнікаў — камуністаў усяго свету: наша партыя заўсёды будзе ісці ў адным цесным баявым страі з вамі, дарагія сябры!

Далей таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць аб барацьбе Савецкага Саюза за мір і бяспеку народаў.

Цвёрды адпор агрэсіі, адзначае ён, нязменна спалучаўся ў палітыцы КПСС з канструктыўнай лініяй на ўрэгуляванне наспеўшых міжнародных праблем, на падтрыманне нармальных, а дзе гэта дазваляе становішча, — добрых адносін з дзяржавамі, якія належаць да іншай сацыяльнай сістэмы. Як і раней, мы паслядоўна адстойвалі ленінскі прынцып мірнага суіснавання дзяржаў, незалежна ад іх грамадскага ладу. Цяпер гэты прынцып ператварыўся ў рэальную сілу міжнароднага развіцця.

Дакладчык затым спыніўся на важнейшых міжнародных праблемах, якія з прычыны сваёй вастрыні або значэння для будучыні патрабавалі асаблівай увагі.

Перш за ўсё, сказаў ён, аб падзеях у Паўднёва-Усходняй Азіі. Усім, хто здольны рэальна глядзець на рэчы, павінна быць зразумела, што рашучасць в'етнамскага народа стаць гаспадаром на ўласнай краіне не зламаць ні прамой ваеннай інтэрвенцыяй, ні сабатажам перагавораў, ні ўсё больш шырокім выкарыстаннем наёмнікаў.

Так званая «в'етнамізацыя» вайны, гэта значыць план знішчэння в'етнамцаў рукамі в'етнамцаў у інтарэсах Вашынгтона, расшырэнне агрэсіі на Камбоджу і Лаос — усё гэта не выцягне Амерыку з дрыгвы бруднай вайны ў Індакітаі, не змые ганьбы, якой пакрылі гэту краіну тыя, хто развязаў і працягвае агрэсію.

Савецкі Саюз рашуча патрабуе спынення імперыялістычнай агрэсіі супраць народаў В'етнама, Камбоджы і Лаоса. Наша краіна была, ёсць і будзе актыўным прыхільнікам справядлівай справы гераічных народаў Індакітая.

Другі «гарачы пункт» сусветнай палітыкі — Блізкі Усход.

Крызіс, які ўзнік у выніку нападу Ізраіля на ААР, Сірыю і Іарданію, — адзін з самых напружаных у развіцці міжнародных адносін за мінулы перыяд. Разам з брацкімі сацыялістычнымі краінамі мы зрабілі ўсё неабходнае, каб спыніць і асудзіць агрэсію. Наша краіна дапамагла аднавіць абаронны патэнцыял арабскіх дзяржаў, што падвергліся ўварванню, і перш за ўсё ААР і Сірыі, супрацоўніцтва з якімі мацнее з году ў год.

Дакладчык гаворыць аб важнай ініцыятыве ААР па ўрэгуляванні становішча на Блізкім Усходзе — згода з прапановамі Ярынга і гатоўнасць заключыць пагадненне аб міры з Ізраілем пры адводзе ізраільскіх войск з захопленых арабскіх тэрыторый. Адхіленне ўрадам Ізраіля ўсіх гэтых прапаноў і адкрыта абвяшчаемыя цяпер бессаромныя дамаганні Тэль-Авіва на арабскія землі з усёй яскравасцю гавораць аб тым, хто перагараджае шлях да міру на Блізкім Усходзе, па чыёй віне захоўваецца небяспечны ачаг вайны ў гэтым раёне. Адначасова становіцца яшчэ больш відавочнай непрыгожая роля тых, хто заахвочвае ізраільскіх экстрэмістаў — роля амерыканскага імперыялізму і міжнароднага сіянізму як зброі агрэсіўных імперыялістычных колаў.

Між тым Тэль-Авіву трэба было б цвяроза глядзець на рэчы. Перавагі, атрыманыя заваёўнікамі ў выніку разбойніцкага нападу, у канчатковым выніку нерэальныя. І чым далей будзе зацягвацца дасягненне палітычнага ўрэгулявання на Блізкім Усходзе, тым мацней будуць абурэнне сусветнай грамадскай думкі, нянавісць арабскіх народаў да агрэсара і яго апекуноў, тым большую шкоду нанясуць правіцелі Ізраіля свайму народу, сваёй краіне.

Савецкі Саюз будзе і ў далейшым цвёрда падтрымліваць арабскіх сяброў. Наша краіна гатова прымаць удзел разам з іншымі дзяржавамі — пастаяннымі членамі Савета Бяспекі — у стварэнні міжнародных гарантый палітычнага ўрэгулявання на Блізкім Усходзе. Пасля яго дасягнення можна было б, на наш погляд, разгледзець далейшыя крокі, накіраваныя на ваенную разрадку ва ўсім гэтым раёне, у прыватнасці, на ператварэнне Міжземнага мора ў мора міру і дружалюбнага супрацоўніцтва.

Адным з важнейшых напрамкаў нашай знешнепалітычнай актыўнасці ўсе гэтыя гады была Еўропа.

Важныя станоўчыя вынікі для ўсяго ходу еўрапейскіх спраў мела паляпшэнне савецка-французскіх адносін. Новыя перспектывы ў Еўропе адкрываюцца ў выніку істотнага зруху ў нашых адносінах з ФРГ. На працягу ўсяго пасляваеннага перыяду мы, як і нашы саюзнікі і сябры, зыходзілі з таго, што аснова трывалага міру ў Еўропе — гэта перш за ўсё непарушнасць граніц еўрапейскіх дзяржаў. Цяпер дагаворамі Савецкага Саюза і Польшчы з ФРГ непарушнасць граніц, у тым ліку паміж ГДР і ФРГ, і заходняй граніцы польскай дзяржавы, пацвярджаецца з усёй выразнасцю.

Пазітыўныя перамены, якія адбыліся ў апошні час у Еўропе, не азначаюць, што поўнасцю вырашаны праблемы, якія дасталіся Еўропе ў спадчыну ад другой сусветнай вайны. Паляпшэнню становішча ў Еўропе ў цэлым магло б паслужыць скліканне агульнаеўрапейскай нарады. Цяпер за гэта выступае большасць еўрапейскіх дзяржаў. Падрыхтоўка яе пераносіцца ў плоскасць практычнай палітыкі.

Адной з важнейшых міжнародных праблем сучаснасці з'яўляецца раззбраенне. Мы імкнуліся дабіцца канкрэтных вынікаў, якія змяншаюць ваенную пагрозу, не дапусціць, каб народы звыкліся з гонкай узбраенняў, як з немінучым злом. Дакладчык падрабязна спыніўся на намаганнях СССР у вырашэнні гэтай важнай праблемы.

Затым таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць аб адносінах СССР з краінамі капіталістычнага свету. З некаторымі з іх, падкрэслівае ён, расшырыліся супрацоўніцтва па агульных пытаннях міжнароднай палітыкі, пачалі ўваходзіць у практыку палітычныя кансультацыі, якія садзейнічаюць лепшаму ўзаемаразуменню. Значныя маштабы набылі эканамічныя і навукова-тэхнічныя сувязі, якія ў радзе выпадкаў пастаўлены на доўгачасную аснову. Дакладчык прыводзіць прыклады такога супрацоўніцтва.

Закранаючы адносіны Савецкага Саюза са Злучанымі Штатамі Амерыкі, дакладчык адзначыў, што паляпшэнне гэтых адносін адпавядала б інтарэсам савецкага і амерыканскага народаў, інтарэсам умацавання міру. Аднак мы не можам праходзіць міма агрэсіўных дзеянняў ЗША у розных раёнах свету. У апошні час амерыканская адміністрацыя зрабіла больш жорсткай сваю пазіцыю па шэрагу міжнародных пытанняў, у тым ліку і такіх, якія закранаюць інтарэсы Савецкага Саюза.

Мы зыходзім з таго, што паляпшэнне адносін паміж СССР і ЗША магчыма. Наша прынцыповая лінія ў адносінах да капіталістычных краін, у тым ліку ЗША, заключаецца ў тым, каб паслядоўна і поўна ажыццяўляць на практыцы прынцыпы мірнага суіснавання, развіваць узаемавыгадныя сувязі, а з тымі дзяржавамі, якія гатовы да гэтага, супрацоўнічаць у сферы ўмацавання міру, надаючы максімальна ўстойлівы характар узаемаадносінам з імі. Але нам даводзіцца ўлічваць, ці маем мы справу з сапраўдным імкненнем вырашаць спрэчныя пытанні за сталом перагавораў або са спробамі праводзіць палітыку з «пазіцыі сілы».

Усякі раз, калі імперыялістам патрабуецца замаскіраваць свае агрэсіўныя мерапрыемствы, яны спрабуюць уваскрасіць міф аб «савецкай пагрозе». Але спробы прыпісаць Савецкаму Саюзу чужыя яму намеры не ашукаюць народы. З усёй адказнасцю мы заяўляем: у нас няма тэрытарыяльных прэтэнзій да каго б там ні было. Мы нікому не пагражаем і ні на каго не збіраемся нападаць. Мы стаім за свабоднае і незалежнае развіццё ўсіх народаў. Але няхай і з намі ніхто не спрабуе размаўляць мовай ультыматумаў і сілы.

Вось ужо больш як 25 гадоў, працягвае дакладчык, наш народ жыве ва ўмовах міру. У гэтым мы бачым найвялікшае дасягненне знешняй палітыкі нашай партыі.

Аднак сілы агрэсіі і мілітарызму, хоць і пацяснёны, але не абясшкоджаны. **Агрэсіўнай палітыцы імперыялізму Савецкі Саюз супрацьпастаўляе палітыку актыўнай абароны міру і ўмацавання міжнароднай бяспекі.** Галоўныя напрамкі гэтай палітыкі добра вядомы. Наша партыя, наша Савецкая дзяржава ў супрацоўніцтве з брацкімі краінамі сацыялізма, з іншымі міралюбівымі дзяржавамі і пры гарачай падтрымцы шматмільённых народных мас ва ўсім свеце ўжо многія гады вядуць барацьбу на гэтых напрамках, адстойваючы справу міру і дружбы паміж народамі. Асноўныя канкрэтныя задачы такой барацьбы ў сучасным становішчы КПСС бачыць у наступным.

**Першае.** — Ліквідаваць ваенныя ачагі ў Паўднёва-Усходняй Азіі і на Блізкім Усходзе і садзейнічаць палітычнаму ўрэгуляванню ў гэтых раёнах на аснове павагі законных правоў дзяржаў і народаў, якія падвергліся агрэсіі.

— Даваць неадкладны і цвёрды адпор любым актам агрэсіі і міжнароднага самавольства. Для гэтага павінны ў поўнай меры выкарыстоўвацца і магчымасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

— Адмова ад ужывання сілы і пагрозы яе ўжывання для вырашэння спрэчных пытанняў павінна стаць законам міжнароднага жыцця. З свайго боку Савецкі Саюз прапануе краінам, якія падзяляюць гэты падыход, заключыць адпаведныя двухбаковыя або рэгіянальныя дагаворы.

**Другое.** — Зыходзіць з канчатковага прызнання тэрытарыяльных змен, якія адбыліся ў Еўропе ў выніку другой сусветнай вайны. Ажыццявіць карэнны паварот да разрадкі і міру на гэтым кантыненце. Забяспечыць скліканне і поспех агульнаеўрапейскай нарады.

— Зрабіць усё для забеспячэння калектыўнай бяспекі ў Еўропе. Мы пацвярджаем сумесна выказаную краінамі-ўдзельніцамі абарончага Варшаўскага дагавору гатоўнасць да адначасовага анулявання гэтага дагавору і Паўночнаатлантычнага саюза або — у якасці першага кроку — да ліквідацыі іх ваенных арганізацый.

**Трэцяе.** — Заключыць дагаворы, якія ставяць пад забарону ядзерную, хімічную, бактэрыялагічную зброю.

— Дабівацца спынення ўсюды і ўсімі выпрабаванняў ядзернай зброі, уключаючы падземныя.

— Садзейнічаць стварэнню бяз'ядзерных зон у розных раёнах свету.

— Мы выступаем за ядзернае раззбраенне ўсіх дзяржаў, якія маюць ядзерную зброю, за скліканне з гэтай мэтай канферэнцыі пяці ядзерных дзяржаў — СССР, ЗША, КНР, Францыі, Англіі.

**Чацвёртае.** — Актывізаваць барацьбу за спыненне гонкі ўзбраенняў усіх відаў. Мы выказваемся за скліканне сусветнай канферэнцыі для разгляду пытанняў раззбраення ва ўсім іх аб'ёме.

— Мы за ліквідацыю замежных ваенных баз. Мы выступаем за скарачэнне ўзброеных сіл і ўзбраенняў у раёнах, дзе ваеннае процістаянне асабліва небяспечнае, перш за ўсё — у Цэнтральнай Еўропе.

— Мы лічым мэтазгоднай распрацоўку мер, якія змяншаюць верагоднасць выпадковага ўзнікнення або наўмыснай фабрыкацыі ваенных інцыдэнтаў і іх перарастання ў міжнародныя крызісы, у вайну.

Савецкі Саюз гатоў дагаворвацца аб скарачэнні ваенных расходаў, у першую чаргу буйных дзяржаў.

**Пятае.** — Павінны быць поўнасцю выкананы рашэнні ААН аб ліквідацыі каланіяльных рэжымаў, якія засталіся. Праяўленні расізму і апартэіду падлягаюць усеагульнаму асуджэнню і байкоту.

**Шостае.** — Савецкі Саюз гатоў паглыбляць адносіны ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах з дзяржавамі, якія, са свайго боку, імкнуцца да гэтага. Наша краіна гатова прымаць удзел разам з іншымі зацікаўленымі дзяржавамі ў вырашэнні такіх праблем, як захаванне прыроднага асяроддзя, асваенне энергетычных і іншых прыродных рэсурсаў, развіццё транспарту і сувязі, папярэджанне і ліквідацыя найбольш небяспечных і распаўсюджаных захворванняў, даследаванне і асваенне космасу і сусветнага акіяна.

Мы заяўляем, што, паслядоўна праводзячы палітыку міру і дружбы паміж народамі, Савецкі Саюз і ў далейшым будзе весці рашучую барацьбу супраць імперыялізму, даваць цвёрды адпор падкопам і дыверсіям агрэсараў. Мы, як і раней, будзем няўхільна падтрымліваць барацьбу народаў за дэмакратыю, нацыянальнае вызваленне і сацыялізм.

# II.

# АСНОЎНЫЯ ПЫТАННІ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ ПАРТЫІ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

Для партыі і Савецкай дзяржавы, як і прадказваў Ленін, эканоміка—гэта галоўная палітыка, палітыка, ад поспехаў якой у рашаючай ступені залежыць пас͏тупальны рух савецкага грамадства да камунізма і ўмацаванне міжнародных пазіцый нашай сацыялістычнай дзяржавы.

Робячы справаздачу аб сваёй рабоце на гэтым важнейшым напрамку дзейнасці, Цэнтральны Камітэт мае ўсе падставы сказаць, што савецкі народ, дастойна завяршыўшы восьмую пяцігодку, зрабіў новы буйны крок наперад у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, ва ўмацаванні магутнасці краіны і павышэнні дабрабыту народа.

**У галіне эканомікі** асноўны вынік пяцігодкі заключаецца ў тым, што істотна ўзраслі маштабы, паскорылася развіццё і палепшыліся якасныя паказчыкі народнай гаспадаркі.

Дырэктывы XXIII з'езда па галоўных эканамічных паказчыках паспяхова выкананы. Нацыянальны даход прадугледжвалася павялічыць на 38—41 працэнт; фактычны яго рост склаў 41 працэнт. Прамысловая вытворчасць пры заданні ў 47—50 працэнтаў павялічылася на 50 працэнтаў. Перавыкананы заданні Дырэктыў па важнейшых паказчыках, якія адносяцца да павышэння дабрабыту працоўных.

У цэлым восьмая пяцігодка дала значна больш высокія вынікі, чым папярэдняя.

Далей у дакладзе прыводзяцца важнейшыя паказчыкі развіцця народнай гаспадаркі ў сёмай і восьмай пяцігодках.

Далейшае развіццё атрымала аснова эканомікі —цяжкая прамысловасць. Апераджальнымі тэмпамі развіваліся галіны, якія вызначаюць тэхнічны прагрэс,—электраэнергетыка, хімічная і нафтахімічная прамысловасць, машынабудаванне, асабліва радыёэлектроніка і прыборабудаванне. Выпуск тавараў народнага спажывання павялічыўся за пяць гадоў на 49 працэнтаў. За адзін 1970 год прамысловай прадукцыі было выпушчана прыкладна ў два разы больш, чым за ўсе даваенныя пяцігодкі, разам узятыя.

У мінулай пяцігодцы значныя поспехі дасягнуты ў развіцці сельскай гаспадаркі. Сярэднегадавы аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі павялічыўся на 21 працэнт супраць 12 у папярэднім пяцігоддзі. Найбольш істотныя зрухі адбыліся ў вытворчасці збожжа, яго сярэднегадавы валавы збор вырас на 37 мільёнаў тон, або ў 1,3 раза. Прыкметна павялічылася вытворчасць мяса, малака, яек і іншых прадуктаў.

Закранаючы вынікі 1970 года, Л. І. Брэжнеў указвае, што ў краіне было атрымана больш як 186 мільёнаў тон збожжа, 6,9 мільёна тон бавоўны-сырцу. Такіх высокіх валавых збораў мы яшчэ ніколі не мелі. Збожжавых было атрымана ў сярэднім па 15,6 цэнтнера, бавоўны—па 25 цэнтнераў з гектара.

Выканана заданне пяцігодкі па росце грузаабароту транспарту. У вялікіх маштабах ішло капітальнае будаўніцтва. Уступіла ў строй каля 1900 буйных прамысловых прадпрыемстваў і аб'ектаў.

Мінулае пяцігоддзе з'явілася важным перыядам ў вырашэнні **сацыяльных задач.** Рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва выраслі за 5 гадоў на 33 працэнты супраць 30, прадугледжаных Дырэктывамі XXIII з'езда партыі, і 19 працэнтаў у папярэднім пяцігоддзі.

У гэтай пяцігодцы мінімальная заработная плата рабочых і служачых была павялічана да 60 рублёў у месяц. Сярэдняя заработная плата рабочых і служачых па краіне ўзрасла на 26 працэнтаў. Даходы калгаснікаў ад грамадскай гаспадаркі павялічыліся на 42 працэнты. Уведзена гарантаваная аплата працы, паніжан пенсійны ўзрост, устаноўлена выплата дапамог па хваробе і непрацаздольнасці членам калгасаў.

Грамадскія фонды спажывання выраслі за пяцігоддзе ў паўтара раза і дасягнулі ў 1970 годзе каля 64 мільярдаў рублёў. Адзін з важнейшых паказчыкаў дабрабыту—рост тавараабароту рознічнага гандлю. За 1966—1970 гады ён склаў 48 працэнтаў. За пяць гадоў пабудавана больш як паўмільярда квадратных метраў жылля. На гэтыя мэты выдаткавана амаль 60 мільярдаў рублёў. Гэта азначае, што ў краіне як бы нанава пабудавана больш як 50 буйных гарадоў з мільённым насельніцтвам кожны.

Паспяхова развівалася сістэма народнай асветы і аховы здароўя. За 1966—70 гг. падрыхтавана 151 тысяча ўрачоў—на 22 тысячы чалавек больш, чым у папярэднюю пяцігодку.

На працягу некалькіх гадоў большасць савецкіх рабочых і служачых карыстаюцца двума выхаднымі днямі пры пяцідзённым рабочым тыдні. Павялічана працягласць аплачваемых водпускаў значнай часткі працоўных.

Далей таварыш Л. І. Брэжнеў пераходзіць да характарыстыкі асаблівасцей сучаснага этапа эканамічнага развіцця краіны і задач новага пяцігадовага плана.

У. І. Ленін падкрэсліваў, гаворыць ён, што ўся складанасць і ўсё майстэрства палітыкі заключаецца ў тым, каб улічыць своеасаблівасць задач кожнага з перыядаў, своеасаблівасць умоў, у якіх дзейнічае партыя. Такі падыход мае велізарнае значэнне і пры выпрацоўцы эканамічнай палітыкі, якая павінна ўлічваць галоўныя асаблівасці кожнага этапа развіцця краіны.

Дзевятая пяцігодка павінна стаць важным этапам у далейшым руху савецкага грамадства па шляху да камунізма, будаўніцтве яго матэрыяльна-тэхнічнай базы, умацаванні эканамічнай і абароннай магутнасці краіны.

**Галоўная задача пяцігодкі заключаецца ў тым, каб забяспечыць значны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа на аснове высокіх тэмпаў развіцця сацыялістычнай вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці, навукова-тэхнічнага прагрэсу і паскарэння росту прадукцыйнасці працы.**

За пяць гадоў трэба будзе павялічыць нацыянальны даход на 37—40 працэнтаў, у тым ліку фонд спажывання на 40 і фонд накаплення на 37 працэнтаў. Вытворчасць прамысловай прадукцыі ўзрасце на 42—46, сярэднегадавая вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі—на 20—22 працэнты, амаль на трэць павысяцца рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва. Дазвольце спыніцца на трох асноўных пытаннях эканамічнай палітыкі партыі на будучы перыяд. Гэта перш за ўсё пытанне аб галоўных мэтах, на дасягненне якіх партыя арыентуе развіццё савецкай эканомікі. Гэта, далей, пытанне аб крыніцах росту, рэсурсах, якія трэба мабілізаваць для далейшага шпаркага ўздыму грамадскай вытворчасці. Гэта, нарэшце, пытанне аб удасканаленні механізма гаспадарання заклікана забяспечыць паспяховае развіццё эканомікі.

Паставіўшы ў якасці галоўнай задачы дзевятай пяцігодкі істотнае павышэнне дабрабыту працоўных, Цэнтральны Камітэт мае на ўвазе, што гэты курс будзе вызначаць нашу дзейнасць не толькі ў будучыя пяць гадоў, але і агульную арыентацыю гаспадарчага развіцця краіны на працяглую перспектыву. Намячаючы такі курс, партыя зыходзіць перш за ўсё з таго, што найбольш поўнае задавальненне матэрыяльных і культурных патрэбнасцей людзей—гэта вышэйшая мэта грамадскай вытворчасці пры сацыялізме.

Партыя зыходзіць з таго, што павышэнне дабрабыту працоўных становіцца ўсё больш настойлівай патрэбнасцю самога нашага гаспадарчага развіцця, адной з важных эканамічых перадумоў шпаркага росту вытворчасці. Такі падыход вынікае не толькі з нашай лініі на далейшае ўзмацненне ролі матэрыяльных і маральных стымулаў да працы. Пытанне ставіцца значна шырэй—аб стварэнні ўмоў, якія спрыялі б усебаковаму развіццю здольнасцей і творчай актыўнасці савецкіх людзей, усіх працоўных, гэта значыць аб развіцці галоўнай прадукцыйнай сілы грамадства. Спецыяльныя веды, высокая прафесіянальная падрыхтоўка, агульная культура чалавека пераўтвараюцца ў абавязковую ўмову паспяховай працы ўсё больш шырокіх слаёў работнікаў. Але ўсё гэта ў значнай меры залежыць ад узроўню жыцця, ад таго, наколькі поўна могуць быць задаволены матэрыяльныя і духоўныя патрэбнасці.

Таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць далей аб прапановах і планах у галіне народнага дабрабыту, якія ўносяцца Цэнтральным Камітэтам партыі на разгляд з'езда.

Прадугледжваецца далейшае павелічэнне **грашовых даходаў** працоўных. За кошт павышэння аплаты працы намячаецца забяспечыць тры чвэрці ўсяго прыросту рэальных даходаў насельніцтва.

За гады пяцігодкі мінімальная заработная плата рабочых і служачых будзе павышана да 70 рублёў у месяц. Будуць павялічаны стаўкі і аклады сярэднеаплатных катэгорый работнікаў, занятых у прамысловасці, на транспарце і ў іншых галінах матэрыяльнай вытворчасці. Павышаюцца тарыфныя стаўкі механізатарам сельскай гаспадаркі. Прадугледжваецца павышэнне заработнай платы настаўнікаў, урачоў і медыцынскага персаналу і работнікаў раду іншых спецыяльнасцей. На Урале, еўрапейскай Поўначы, у Заходняй Сібіры, у Казахстане (акрамя поўдня рэспублікі), у радзе раёнаў Далёкага Усходу, Усходняй Сібіры, Сярэдняй Азіі будуць устаноўлены або павышаны надбаўкі да заработнай платы працоўных у многіх галінах. Будуць значна павялічаны размеры даплат за работу ў начны час.

Гэтыя меры закрануць увогуле інтарэсы ка-

ўвазе, што ў перспектыве нам трэба будзе стварыць агульнадзяржаўную аўтаматызаваную сістэму збору і апрацоўкі інфармацыі.

Затым таварыш Л. І. Брэжнеў падрабязна спыніўся на ўдасканаленні арганізацыйнай структуры кіравання, узмацненні эканамічных стымулаў, больш шырокім удзеле працоўных у кіраванні гаспадаркай. У гэтай сувязі ён адзначыў неабходнасць павышэння ролі і паляпшэння работы Дзяржплана і іншых агульнадзяржаўных органаў. Для гэтага трэба вызваліць іх ад значнай часткі бягучых спраў, з тым, каб яны сканцэнтравалі ўвагу на галоўных праблемах развіцця народнай гаспадаркі. Наспела пытанне аб павышэнні ролі і пашырэнні самастойнасці міністэрстваў і ведамстваў, што таксама патрабуе пэўнага ўдакладнення іх функцый.

У сваёй рабоце па ўдасканаленні кіраўніцтва народнай гаспадаркай, сказаў таварыш Л. І. Брэжнеў, партыя цвёрда прытрымліваецца курсу на правільнае спалучэнне дырэктыўных заданняў цэнтральных органаў з выкарыстаннем эканамічных рычагоў уздзеяння на вытворчасць. Гэтыя рычагі — гаспадарчы разлік, цэны, прыбытак, крэдыт, формы матэрыяльнага заахвочвання і г. д. — закліканы стварыць такія эканамічныя ўмовы, якія садзейнічаюць паспяховай дзейнасці вытворчых калектываў, мільёнаў працоўных, забяспечваюць абгрунтаваную ацэнку вынікаў іх работы.

Шэраг мер у гэтым напрамку ажыццёўлен у адпаведнасці з рашэннямі верасеўскага (1965 г.) Пленума ЦК «Аб паляпшэнні кіравання прамысловасцю, удасканаленні планавання і ўзмацненні эканамічнага стымулявання прамысловай вытворчасці». Вопыт мінулых гадоў дазваляе сказаць, што, пачаўшы ажыццяўленне эканамічнай рэформы, партыя правільна ацаніла становішча, узяла правільны курс у справе ўдасканалення кіравання народнай гаспадаркай.

Спыніўшыся на пытанні аб **больш шырокім удзеле працоўных у кіраванні гаспадаркай**, таварыш Л. І. Брэжнеў сказаў:

Удзел працоўных у кіраванні эканомікай не абмяжоўваецца вырашэннем гаспадарчых задач у рамках асобнага вытворчага калектыву. Неабходна падыходзіць да гэтай справы шырэй, улічваючы тую ролю, якую адыгрываюць у кіраўніцтве эканомікай наша партыя і Савецкая дзяржава. Іх палітыка — у тым ліку эканамічная — прадыктавана карэннымі інтарэсамі працоўных. Яна выпрацоўваецца прадстаўнікамі працоўных у выбарных органах, пры шырокім удзеле мас у абмеркаванні буйнейшых планаў і рашэнняў. Працоўныя актыўна ўдзельнічаюць і ў кантролі за выкананнем гэтых рашэнняў. Партыя будзе і надалей развіваць усе гэтыя формы сацыялістычнай дэмакратыі.

Поспех намечаных партыяй планаў эканамічнага развіцця, павышэння народнага дабрабыту, адзначае дакладчык, залежыць, у канчатковым выніку, ад людзей. У свядомай і ўпорнай працы рабочых, сялян, інтэлігенцыі, нашых партыйных, савецкіх, прафсаюзных, гаспадарчых кадраў — залог новых перамог на фронце камуністычнага будаўніцтва.

# III.

# САЦЫЯЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ САВЕЦКАГА ГРАМАДСТВА І ЗАДАЧЫ ПАРТЫІ

У мінулым пяцігоддзі Цэнтральны Камітэт удзяляў значную ўвагу пытанням сацыяльна-палітычнага і культурнага развіцця савецкага грамадства. Ставячы і вырашаючы праблемы далейшага развіцця нашай палітычнай сістэмы, пытанні ідэалагічнага характару, Цэнтральны Камітэт зыходзіў з таго, што палітыка партыі прыносіць патрэбныя вынікі тады, калі яна дакладна ўлічвае як інтарэсы ўсяго народа, так і інтарэсы складаючых яго класаў і сацыяльных груп, накіроўвае іх у адно агульнае рэчышча.

Палітыка партыі накіравана на тое, каб садзейнічаць зблізкэнню рабочага класа, калгаснага сялянства, інтэлігенцыі, паступоваму пераадоленню істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, паміж разумовай і фізічнай працай. Гэта — адзін з галоўных участкаў будаўніцтва бяскласавага камуністычнага грамадства.

Зблізкэнне ўсіх класаў і сацыяльных груп, выхаванне маральных і палітычных якасцей савецкага народа, умацаванне яго сацыяльнага адзінства адбываюцца ў нас на аснове марксісцка-ленінскай ідэалогіі, якая выражае сацыялістычныя інтарэсы і камуністычныя ідэалы **рабочага класа**.

Рабочы клас — гэта самы шматлікі клас нашага грамадства. За гады пяцігодкі колькасць рабочых узрасла прыкладна на 8 мільёнаў чалавек. Рады рабочага класа значна папоўніліся работнікамі саўгасаў. Рабочыя складаюць звыш 55 працэнтаў занятага насельніцтва краіны. Рабочы клас быў і застаецца асноўнай прадукцыйнай сілай грамадства. Яго рэвалюцыйнасць, дысцыплінаванасць, арганізаванасць і калектывізм вызначаюць яго вядучае становішча ў сістэме сацыялістычных грамадскіх адносін.

Вядучая роля рабочага класа, як будаўніка камунізма, умацоўваецца па меры таго, як растуць яго агульная культура, адукаванасць, яго палітычная актыўнасць. Аб росце культуры рабочага класа пераканаўча гавораць, у прыватнасці, даныя двух апошніх перапісаў насельніцтва. У 1959 годзе з кожнай тысячы рабочых вышэйшую і сярэднюю адукацыю ў нас мелі 386 чалавек, а цяпер — больш як 550.

Намаганні партыі і ў далейшым будуць накіраваны на тое, каб уплыў рабочага класа ва ўсіх сферах жыцця нашага грамадства рос і ўмацоўваўся, каб яго актыўнасць і ініцыятыва прыносілі яшчэ больш плённыя вынікі.

Палітычная аснова нашага грамадства — гэта саюз рабочага класа і **сялянства**. Палітыка партыі, яе практычныя меры па ўздыме як прамысловасці, так і сельскай гаспадаркі прывялі да далейшага ўмацавання гэтага вялікага саюза.

Рост прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі, паступовае ператварэнне сельскагаспадарчай працы ў разнавіднасць працы індустрыяльнай, уздым культуры вёскі і перабудова сельскага быту — усё гэта вядзе да змянення сацыяльнага аблічча і псіхалогіі селяніна. У яго з'яўляецца ўсё больш агульных рысаў з рабочым. Расце колькасць калгаснікаў, чыя праца непасрэдна звязана з машынамі і механізмамі, павышаецца адукаванасць калгаснага сялянства. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ўсяго шэсць працэнтаў працоўных вёскі мелі вышэйшую і сярэднюю адукацыю. А паводле даных на канец 1970 года, больш як палавіна сельскага насельніцтва скончыла сярэднюю або вышэйшую школу.

Трэці Усесаюзны з'езд калгаснікаў, прыняў, як вядома, новы Прыкладны статут калгаса. Выбраны Саюзны савет калгасаў і саветы калгасаў у раёнах, абласцях, краях і рэспубліках, якія прадстаўляюць інтарэсы сялянства. Усё гэта мае важнае значэнне для жыцця вёскі, для развіцця калгаснай дэмакратыі.

Вядома, партыя добра бачыць, што яшчэ многае трэба будзе зрабіць для развіцця культуры, паляпшэння быта і, што трэба асабліва падкрэсліць, — у галіне будаўніцтва ў вёсцы. Спраў наперадзе ў гэтых адносінах нямала. Але разам з тым у нас няма падстаў недаацэньваць усё тое, што ўжо зроблена.

Да ліку важных сацыяльных змяненняў у нашым грамадстве адносіцца няспыннае зблізкэнне рабочага класа, сялянства і інтэлігенцыі. І гэты працэс становіцца ўсё больш прыкметным.

Наша савецкая **інтэлігенцыя** бачыць сваё прызванне ў тым, каб аддаваць творчую энергію справе народа, справе пабудовы камуністычнага грамадства.

Тэмпы росту навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі за апошнія гады ў нас пачалі перавышаць тэмпы росту ўсіх іншых сацыяльных груп.

Гэты працэс заканамерны. Ён з'яўляецца вынікам палітыкі партыі, накіраванай на ўсямернае паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, на далейшае павышэнне культуры і адукаванасці народа.

Наша інтэлігенцыя, асабліва навукова-тэхнічная, папаўняецца ў велізарнай ступені з асяроддзя рабочых і сялян. У сваёй палітыцы наша партыя заўсёды ўлічвала і ўлічвае інтарэсы такіх вялікіх грамадскіх груп, як моладзь, жанчыны, пенсіянеры.

Адной з самых буйных заваёў сацыялізма з'яўляецца практычнае ажыццяўленне партыяй **ленінскай нацыянальнай палітыкі** — палітыкі роўнасці і дружбы народаў.

Нядаўна многія брацкія рэспублікі адзначылі свае паўвекавыя юбілеі. Гэта была ўражлівая дэманстрацыя росквіту сацыялістычных нацый, маналітнага адзінства ўсіх народаў нашай Радзімы. У будучым годзе намі будзе адзначана 50-годдзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У гісторыі нашай дзяржавы ўтварэнне СССР па сваёй палітычнай значнасці і сацыяльна-эканамічных выніках займае выдатнае месца.

Партыя і надалей будзе ўмацоўваць Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, паслядоўна ажыццяўляючы ленінскі курс на росквіт сацыялістычных нацый і іх паступовае зблізкэнне. Партыя і надалей будзе выхоўваць усіх працоўных у духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, непрымірымасці да праяўленняў нацыяналізму і шавінізму, нацыянальнай абмежаванасці і фанабэрыстасці ў якой бы там ні было форме, у духу глыбокай павагі да ўсіх нацый і народнасцей.

За гады сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне ўзнікла **новая гістарычная агульнасць людзей — савецкі народ.** У сумеснай працы, у барацьбе за сацыялізм, у баях за яго абарону нарадзіліся новыя, гарманічныя адносіны паміж класамі і сацыяльнымі групамі, нацыямі і нацыянальнасцямі — адносіны дружбы і супрацоўніцтва.

Нашы людзі спаяны агульнасцю марксісцка-ленінскай ідэалогіі, высокіх мэт будаўніцтва камуністычнага грамадства. Гэту маналітную згуртаванасць шматнацыянальны савецкі народ дэманструе сваёй працай, сваім аднадушным адабрэннем палітыкі партыі.

Мінулае пяцігоддзе азнаменавалася новым рухам наперад па шляху ўмацавання адзінства нашага грамадства. Мы і надалей будзем рабіць усё для таго, каб мацнела агульнасць інтарэсаў усіх класаў і сацыяльных груп нашага грамадства, каб развіваўся працэс іх зблізкэння.

Затым дакладчык гаворыць аб умацаванні Савецкай дзяржавы, развіцці сацыялістычнай дэмакратыі. Партыя правяла на працягу справаздачнага перыяду, сказаў ён, значную і вельмі разнастайную работу па далейшым ўмацаванні Савецкай дзяржавы і ўдасканаленні ўсёй палітычнай арганізацыі нашага грамадства. Галоўным напрамкам гэтай дзейнасці — у адпаведнасці з задачамі камуністычнага будаўніцтва — было і застаецца далейшае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі. Асновай сацыялістычнай дзяржавы і найбольш поўным увасабленнем яе дэмакратычнага характару служыць у нас, як вядома, органы народнай улады — Саветы дэпутатаў працоўных. Гэта велізарная сіла. Сёння гэта — больш як два мільёны дэпутатаў. Яны кіруюць справамі ўсёй нашай агульнанароднай дзяржавы знізу даверху. А разам з імі самааддана працуе армія добраахвотных памочнікаў — 25 мільёнаў актывістаў пры Саветах.

Тав. Л. І. Брэжнеў напомніў, што ў рашэннях XIII з'езда КПСС была падкрэслена неабходнасць павысіць ролю Саветаў. Ён расказаў аб тым, што зроблена за мінулыя гады ў гэтым напрамку, як гэта актывізавала дзейнасць органаў народнай улады.

Партыя, працягваў дакладчык, надае вялікае значэнне **ўдасканаленню савецкага заканадаўства**. У мінулы перыяд ўвага была сканцэнтравана на заканадаўчым рэгуляванні такіх пытанняў, як паляпшэнне аховы здароўя народа, умацаванне сям'і, далейшае ўдасканаленне працоўных адносін, забеспячэнне аховы прыроды і рацыянальнага выкарыстання прыродных багаццяў. Па ўсіх гэтых пытаннях Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўныя Саветы саюзных рэспублік пасля шырокіх абмеркаванняў, у якіх удзельнічалі мільёны грамадзян, прынялі адпаведныя законы. Тав. Л. І. Брэжнеў гаворыць аб тым, што наспела неабходнасць распрацаваць спецыяльны закон, які вызначаў бы статус дэпутатаў — ад Вярхоўных да пасялковых Саветаў, — іх паўнамоцтвы і правы, а таксама абавязкі службовых асоб у адносінах да дэпутатаў. Прыняцце такога закона ўзняло б аўтарытэт і актыўнасць дэпутатаў.

Паспяховае вырашэнне задач, якія стаяць перад намі, прадугледжвае дакладную, зладжаную работу **дзяржаўнага апарату**, працягвае дакладчык. Адсюль — павышаныя патрабаванні да апарату кіравання. Пачатае ў апошнія гады ўкараненне сучасных сродкаў і метадаў кіраўніцкай дзейнасці стварае ўмовы для больш рацыянальнай арганізацыі апарату кіравання, яго падзешаўлення і скарачэння яго колькасці. Мерапрыемствы ў гэтым напрамку ўжо ажыццяўляюцца, і яны будуць працягвацца.

У сістэме савецкай сацыялістычнай дэмакратыі важнае месца займаюць органы **народнага кантролю**, у рабоце якіх цяпер прымаюць удзел мільёны рабочых, калгаснікаў, служачых. Партыя і надалей будзе клапаціцца аб тым, каб ленінскія ідэі аб пастаянным і дзейсным кантролі з боку шырокіх мас няўхільна ажыццяўляліся.

Важная асаблівасць сацыялістычнага ладу заключаецца ў тым, што ўдзел працоўных у кіраванні грамадствам ажыццяўляецца ў нашай краіне не толькі праз дзяржаўныя органы, але і праз разгалінаваную сетку масавых арганізацый працоўных — перш за ўсё такіх, як прафсаюзы і камсамол.

Цяпер у нас больш як 93 мільёны членаў прафсаюзаў. Гэта практычна ўвесь рабочы клас, уся працоўная інтэлігенцыя, шматлікія атрады сельскіх працаўнікоў.

Прафсаюзы — адно з важнейшых звенняў у агульнай сістэме сацыялістычнай дэмакратыі, у далучэнні працоўных да кіравання дзяржаўнымі і грамадскімі справамі.

Партыя і надалей будзе пастаянна падтрымліваць дзейнасць прафсаюзаў як самай масавай арганізацыі працоўных, клапаціцца аб тым, каб яны маглі паўней і больш паспяхова выконваць сваю ролю школы кіравання, школы гаспадарання, школы камунізма.

Важнае месца ў грамадска-палітычным жыцці краіны належыць **ленінскаму камсамолу**, які аб'ядноўвае ў сваіх радах больш як 28 мільёнаў юнакоў і дзяўчат.

Партыя па праве ганарыцца маладымі будаўнікамі камунізма. Наш абавязак — перадаваць новым пакаленням свой палітычны вопыт, вопыт вырашэння праблем эканамічнага і культурнага будаўніцтва, кіраваць ідэйным выхаваннем моладзі, рабіць усё, каб яна дастойна працягвала справу сваіх бацькоў, справу вялікага Леніна.

У справаздачны перыяд Цэнтральны Камітэт, Савецкі ўрад працягвалі ажыццяўляць меры **па ўмацаванні законнасці і правапарадку**, выхаванні грамадзян у духу захавання законаў і правіл сацыялістычнага супольнага жыцця. Палепшана дзейнасць міліцыі, пракуратуры, судоў. Ва ўмовах няспыннай падрыўной дзейнасці імперыялізму важную ролю адыгрываюць **органы дзяржаўнай бяспекі.** У справаздачны перыяд яны былі ўмацаваны палітычна сталымі кадрамі. Партыя паслядоўна выхоўвае работнікаў гэтых органаў у духу ленінскіх прынцыпаў, няўхільнага захавання сацыялістычнай законнасці, у духу пільнасці ў барацьбе за ахаванне савецкага грамадства ад дзеянняў варожых элементаў, ад падкопаў імперыялістычных разведак.

Усё, што створана народам, падкрэсліў таварыш Л. І. Брэжнеў, павінна быць надзейна ахавана. Умацоўваць Савецкую дзяржаву — гэта значыць умацоўваць і яе **Узброеныя Сілы**, усямерна павышаць абараназдольнасць нашай Радзімы, і пакуль мы жывём у неспакойным свеце, гэта задача застаецца адной з самых галоўных! Выконваючы волю народа, Камуністычная партыя нястомна клапоціцца аб умацаванні абароны краіны. У справаздачны перыяд пытанні ваеннага будаўніцтва пастаянна знаходзіліся ў цэнтры нашай увагі. Прынятыя за апошнія гады меры далі магчымасць істотна ўмацаваць магутнасць і баяздольнасць Узброеных Сіл. Савецкія людзі могуць быць упэўнены, што ў любы час дня і ночы нашы слаўныя Узброеныя Сілы гатовы адбіць напад ворага, адкуль бы ён ні зыходзіў. Любы магчымы агрэсар добра ведае, што ў выпадку спробы ракетна-ядзернага нападу на нашу краіну ён атрымае знішчальны ўдар у адказ.

Далей таварыш Л. І. Брэжнеў гаворыць: пытанні дэмакратыі, як вядома, знаходзяцца цяпер у цэнтры ідэалагічнай і палітычнай барацьбы паміж светам сацыялізма і светам капіталізму. Буржуазныя ідэолагі, рэвізіяністы крывадушна гавораць наконт таго, быццам у нас адсутнічае дэмакратыя. Яны падносяць нам усякага роду «парады» адносна «паляпшэння» сацыялізма, яго «дэмакратызацыі». Але клапоцяцца яны, вядома, не аб сацыялізме. Яны хацелі б вярнуць нас да буржуазных парадкаў, і таму спрабуюць навязаць сваю буржуазную дэмакратыю, дэмакратыю для эксплуатататараў, чужую інтарэсам народа.

Пустая, марная задума. У савецкіх людзей свая дэмакратыя — сацыялістычная, свае прынцыпы, свае традыцыі ў яе развіцці. Няма свабоды наогул, як няма і дэмакратыі наогул. Гэта — класавыя паняцці. Так ставіў пытанне У. І. Ленін, так ставіць яго і сёння наша партыя. Сэнс і змест сацыялістычнай дэмакратыі мы бачым ва ўдзеле ўсё больш шырокіх мас у кіраванні краінай, грамадскімі справамі. Уся палітычная сістэма грамадства, пастаянна растучая ініцыятыва працоўных пастаўлены ў нас на службу будаўніцтву камунізма. Такая дэмакратыя — гэта для нас жыццёвая патрэбнасць, неабходная ўмова развіцця і ўмацавання сацыялістычных грамадскіх адносін.

Партыя праяўляе нястомныя клопаты аб тым, каб наша сацыялістычная дэмакратыя пастаянна развівалася, каб кожны адчуваў сябе грамадзянінам у поўным сэнсе гэтага слова, быў зацікаўлен у агульнанароднай справе і нёс за яе сваю долю адказнасці. Партыя і надалей будзе паслядоўна праводзіць гэты курс.

Вялікае месца ў дзейнасці партыі за справаздачны перыяд, працягваў дакладчык, займалі далейшае разгортванне ўсіх форм ідэалагічнай работы, палітычнае выхаванне мас і павышэнне культурнага ўзроўню народа. Маральна-палітычныя якасці савецкіх людзей фарміруюцца ўсім сацыялістычным укладам нашага жыцця, усім ходам спраў у грамадстве, але перш за ўсё мэтанакіраванай, настойлівай ідэйна-выхаваўчай работай партыі, усіх яе арганізацый.

Асновай усёй ідэйна-выхаваўчай работы партыі з'яўляецца **фарміраванне ў найшырэйшых мас працоўных камуністычнага светапогляду**, выхаванне іх на ідэях марксізма-ленінізма. Але нават самая перадавая ідэалогія становіцца рэальнай сілай толькі тады, калі, авалодваючы масамі, яна заахвочвае іх да актыўных дзеянняў, вызначае нормы іх штодзённых паводзін. На адным з першых месц у ідэалагічнай рабоце, якую праводзіць партыя, стаіць **выхаванне ў савецкіх людзях новых, камуністычных адносін да працы.**

За апошнія гады ў нас праведзена значная работа па выхаванні ў савецкіх людзей пачуцця гордасці за сваю Радзіму, за свой народ, за яго вялікія здзяйсненні, пачуцця павагі да дастойных старонак мінулага сваёй краіны.

У справаздачны перыяд ЦК партыі прымаў меры да таго, каб стварыць такую маральную атмасферу ў нашым грамадстве, якая садзейнічала б зацвярджэнню ва ўсіх звеннях грамадскага жыцця, у працы і ў быце ўважлівых і клапатлівых адносін да чалавека, сумленнасці, патрабавальнасці да сябе і да іншых, давер'я, якое спалучаецца са строгай адказнасцю, духу сапраўднага таварыства. Словам, мы імкнуліся да таго, каб у нашай краіне ўсім лепш жылося і працавалася. Зразумела, вынікі гэтай работы цяжка выказаць нейкімі лічбавымі, статыстычнымі данымі. Аднак кожны савецкі чалавек, відаць, адчувае паляпшэнне маральнай атмасферы ў нашай партыі, у нашым грамадстве. Мы будзем і далей ісці па гэтым шляху.

Далей дакладчык спыніўся на пытаннях адукацыі, навукі і мастацтва.

У Дырэктывах XXIII з'езда КПСС была пастаўлена задача: завяршыць у асноўным да зыходу 1970 года ўвядзенне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі. Мы хоць і не змаглі поўнасцю дабіцца таго, што было намечана, але значна наблізіліся да пастаўленай мэты: цяпер у нас каля 80 працэнтаў навучэнцаў, якія заканчваюць васьмігодку, атрымліваюць затым поўную сярэднюю адукацыю.

У выніку развіцця ўсіх звенняў народнай асветы поўнасцю выканана другая важная дырэктыва XXIII з'езда партыі: за пяцігоддзе ў краіне падрыхтавана больш як сем мільёнаў спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

Наша партыя не шкадуе намаганняў, каб забяспечыць плённае разгортванне ўсяго фронту грамадскіх і прыродазнаўчых навук.

Агульная колькасць навуковых работнікаў павялічылася ў краіне за пяцігоддзе ў 1,4 раза і складае цяпер каля 930 тысяч чалавек. Мы з задавальненнем адзначаем, што ў шэрагу вельмі важных галін нашы вучоныя заваявалі перадавыя пазіцыі ў свеце.

З рухам нашага грамадства па шляху камуністычнага будаўніцтва, працягваў дакладчык, узрастае роля **літаратуры і мастацтва** ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных пераконанняў, духоўнай культуры. Натуральна таму, што партыя ўдзяляла і ўдзяляе вялікую ўвагу ідэйнаму зместу нашай літаратуры і нашага мастацтва, той ролі, якую яны адыгрываюць у грамадстве. У адпаведнасці з ленінскім прынцыпам партыйнасці мы бачылі сваю задачу ў тым, каб накіроўваць развіццё ўсіх відаў мастацкай творчасці на ўдзел у вялікай агульнанароднай справе камуністычнага будаўніцтва. Асаблівае месца ў літаратурнай і мастацкай творчасці заняла ў справаздачны перыяд ленінская тэма. З'явіўся шэраг цікавых раманаў, п'ес, кінафільмаў аб Леніне, прасякнутых рэвалюцыйнай страснасцю, пафасам вернасці ленінізму. Выклікае вялікае задавальненне той факт, што плённае развіццё літаратуры і мастацтва адбываецца ва усіх нашых рэспубліках, на дзесятках моваў народаў СССР, у яркай разнастайнасці нацыянальных форм.

Таварыш Л. І. Брэжнеў адзначыў, што работнікамі савецкага мастацтва за апошнія гады зроблена многае. Наш народ высока цэніць іх дасягненні, якія з'яўляюцца сур'ёзным укладам у справу выхавання камуністычнай свядомасці савецкіх людзей. Аднак нельга сказаць, што ў галіне мастацкай творчасці ўсё абстаіць добра, асабліва ў сэнсе якасці ствараемых твораў. Думаецца, што ўсе мы маем права чакаць ад работнікаў мастацтва большай патрабавальнасці да саміх сябе і да сваіх таварышаў па прафесіі.

Нельга таксама ўпускаць з-пад увагі, што ў развіцці нашага мастацтва былі і ўскладняючыя моманты іншага парадку. Сёй-той спрабаваў звесці разнастайнасць сённяшняй савецкай рэчаіснасці да праблем, якія беспаваротна адсунуты ў мінулае ў выніку работы, праведзенай партыяй па пераадоленні вынікаў культу асобы. Другая крайнасць, што таксама мела месца сярод асобных літаратараў, — гэта спробы абяліць з'явы мінулага, якія партыя падвергла рашучай і прынцыповай крытыцы, закансерваваць уяўленні і погляды, якія ідуць ўразрэз з тым новым, творчым, што партыя ўнесла ў сваю практычную і тэарэтычную дзейнасць за апошнія гады. Па сутнасці ж і ў тым, і ў другім выпадку мелі месца спробы зменшыць значэнне таго, што ўжо зроблена партыяй і народам, адцягнуць увагу ад праблем сённяшняга жыцця, ад канструктыўнага курсу партыі і стваральных спраў савецкіх людзей.

Дзеячы літаратуры і мастацтва знаходзяцца на адным з вострых участкаў ідэалагічнай барацьбы. Партыя і народ не мірыліся і не будуць мірыцца са спробамі — з якога б боку яны ні зыходзілі — прытупіць нашу ідэйную зброю, запляміць наш сцяг. Калі літаратар ўзводзіць паклёп на савецкую рэчаіснасць, дапамагае нашым ідэалагічным праціўнікам змагацца супраць сацыялізма, то ён заслугоўвае толькі аднаго — грамадскай пагарды.

Мы гаворым тут аб указаных адмоўных з'явах не таму, што яны набылі колькі-небудзь значнае распаўсюджанне. ЦК зыходзіць з таго, што адкрытая, прынцыповая пазіцыя партыі ў адносінах да гэтых з'яў дапаможа дзеячам культуры з яшчэ большай упэўненасцю і пераконанасцю працаваць на тым генеральным напрамку развіцця савецкай літаратуры і мастацтва, на якім яны плённа працавалі ў мінулае пяцігоддзе.

Работнікі савецкай літаратуры і мастацтва выхаваны Камуністычнай партыяй; яны жывуць справамі і думкамі свайго народа, іх творчы лёс неаддзельны ад інтарэсаў сацыялістычнай Радзімы.

Мы за ўважлівыя адносіны да творчых пошукаў, за поўнае раскрыццё індывідуальнасці здольнасцей і талентаў, за разнастайнасць і багацце форм і стыляў, якія выпрацоўваюцца на аснове метаду сацыялістычнага рэалізму. Сіла партыйнага кіраўніцтва — ва ўменні захапіць мастака высакароднай задачай служэння народу, зрабіць яго перакананым і актыўным удзельнікам пераўтварэння грамадства на камуністычных асновах.

У вялікай і складанай справе фарміравання новага чалавека, у ідэалагічнай барацьбе са светам капіталізму магутным інструментам партыі з'яўляюцца **сродкі масавай інфармацыі і прапаганды** — газеты, часопісы, тэлебачанне, радыё, інфармацыйныя агенцтвы. У справаздачны перыяд Цэнтральны Камітэт партыі не раз разглядаў пытанні работы сродкаў інфармацыі і прапаганды, імкнучыся забяспечыць паляпшэнне якасці іх работы і ахоп ёю ўсё больш шырокіх мас насельніцтва.

Наш друк, радыё, тэлебачанне робяць многае для аператыўнага асвятлення актуальных праблем унутранага жыцця і міжнародных спраў, якія сапраўды цікавяць савецкіх людзей, дапамагаюць пашыраць перадавы вопыт камуністычнага будаўніцтва, даюць адпор ідэалагічным вылазкам класавых праціўнікаў. Разавы тыраж газет складае ў нас каля 140 мільёнаў, а часопісаў — больш як 150 мільёнаў экземпляраў. Асабліва вырасла падпіска на газеты і часопісы ў вёсцы. Яна дасягнула цяпер больш як 107 мільёнаў экземпляраў супраць 65 мільёнаў пяць гадоў назад.

Пасля XXIII з'езда КПСС у нас выдадзена кніг і брашур агульным тыражом больш, як 6,5 мільярда экземпляраў.

Ідэалагічная, прапагандысцкая і агітмасавая работа — гэта важная і адказная сфера дзейнасці партыі. Зроблена тут нямала. Аднак трэба сказаць, што мы яшчэ не поўнасцю задаволены становішчам спраў у гэтай галіне. Цэнтральны Камітэт лічыць неабходным узмацніць усю нашу ідэалагічную работу і, перш за ўсё, зрабіць больш актыўнай, мэтанакіраванай прапаганду камуністычных ідэалаў, канкрэтных задач нашага будаўніцтва. На бліжэйшы час адно з цэнтральных месц у прапагандысцкай і агітацыйна-масавай рабоце партыі павінна будзе заняць глыбокае растлумачэнне працоўным сэнсу і значэння рашэнняў нашага з'езда.

Мы жывём ва ўмовах несціхальнай ідэалагічнай вайны, якую вядзе супраць нашай краіны, супраць свету сацыялізма імперыялістычная прапаганда, выкарыстоўваючы самыя выдасканаленыя прыёмы і магутныя тэхнічныя сродкі.

Абавязак нашых работнікаў прапагандысцкага, агітацыйна-масавага фронту — даваць своечасовы, рашучы і эфектыўны адпор гэтым ідэалагічным наскокам, несці сотням мільёнаў людзей праўду аб сацыялістычным грамадстве, аб савецкім спосабе жыцця, аб будаўніцтве камунізма ў нашай краіне. І рабіць гэта трэба пераканаўча, даходліва, ярка. Голас праўды аб Савецкім Саюзе павінен быць чутны на ўсіх кантынентах.

# IV.

# РАЗВІЦЦЁ ПАРТЫІ І НЕКАТОРЫЯ ПЫТАННІ ЎНУТРЫПАРТЫЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Галоўнае ў дзейнасці Камуністычнай партыі, гаворыць таварыш Л. І. Брэжнеў, — выпрацоўка генеральнай перспектывы развіцця грамадства, правільнай палітычнай лініі і арганізацыя працоўных з мэтай яе ажыццяўлення. Уся наша рэчаіснасць сведчыць, што КПСС з гонарам выконвае ролю палітычнага кіраўніка рабочага класа і ўсіх працоўных, вядзе савецкі народ правільнай дарогай, ленінскім курсам.

XXIII з'езд КПСС, абапіраючыся на ленінскія арганізацыйныя прынцыпы і развіваючы іх у адпаведнасці з новымі ўмовамі, даў дакладныя і ясныя ўстаноўкі па асноўных пытаннях партыйнага будаўніцтва. Вопыт пацвердзіў правільнасць і жыццёвую сілу гэтых установак.

Справаздачны перыяд характарызуецца **далейшым ростам радоў** партыі, паляпшэннем яе якаснага саставу. Цяпер у КПСС налічваецца 14.455.321 чалавек, у тым ліку 13.810.089 членаў партыі і 645.232 кандыдаты. Сярод дарослага насельніцтва краіны камуністы складаюць дзевяць працэнтаў. У саставе партыі рабочых — 40,1 працэнта, калгаснікаў — 15,1, служачых — 44,8 працэнта.

Пасля XXIII з'езда ў КПСС прынята тры мільёны чалавек. З іх амаль мільён шэсцьсот тысяч, або больш за палавіну, — гэта рабочыя. Такім чынам, указанне з'езда аб тым, каб вядучае месца ў сацыяльным саставе партыі належала рабочаму класу, паслядоўна ажыццяўляецца. Мы будзем працягваць гэту лінію, яна поўнасцю адпавядае прыродзе нашай партыі, месцу і ролі рабочага класа ў савецкім грамадстве.

Усе гэтыя гады наша партыя, яе Цэнтральны Камітэт няўхільна праводзілі курс на далейшае **развіццё ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, захаванне ленінскіх норм партыйнага жыцця, павышэнне актыўнасці камуністаў.**

За справаздачны перыяд праведзена 16 Пленумаў Цэнтральнага Камітэта КПСС. Рэгулярна, адзін раз у тыдзень, праводзяцца ў нас пасяджэнні Палітбюро ЦК, на якіх разглядаюцца найбольш важныя і актуальныя пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі партыі. Штотыднёва праводзяцца і пасяджэнні сакратарыята ЦК, увага была сканцэнтравана галоўным чынам на падборы кадраў і праверцы выканання. Партыйныя камітэты на месцах таксама рэгулярна праводзяць Пленумы і пасяджэнні бюро, працуюць як органы калектыўнага кіраўніцтва.

Дэмакратычныя прынцыпы жыцця і дзейнасці партыі яскрава праявіліся і ў ходзе апошняй справаздачна-выбарнай кампаніі. У рабоце партыйных сходаў прыняло ўдзел больш як 90 працэнтаў камуністаў, у спрэчках выступіла звыш 3 мільёнаў чалавек. Сходы, партыйныя канферэнцыі, з'езды Кампартый саюзных рэспублік паказалі, што ўсе партыйныя арганізацыі поўнасцю адабраюць і падтрымліваюць унутраную і знешнюю палітыку Цэнтральнага Камітэта. Зноў былі прадэманстраваны маналітнае адзінства і згуртаванасць радоў нашай ленінскай партыі.

У дзейнасці партарганізацый атрымала далейшае развіццё крытыка і самакрытыка — выпрабаваны метад выпраўлення недахопаў, паляпшэння справы.

Развіццё ўнутрыпартыйнай дэмакратыі неаддзельнае ад умацавання партыйнай дысцыпліны. Вопыт пацвярджае, што сіла, дзеяздольнасць партыі ў многім вызначаюцца тым, наколькі паслядоўна і правільна ажыццяўляецца прынцып дэмакратычнага цэнтралізму.

Цяпер перад нашай партыяй паўстала пытанне аб абмене партдакументаў, і наконт гэтага хацелася б выказаць тут некаторыя меркаванні. З моманту апошняга абмену дакументаў мінула 17 гадоў.

Тэрмін дзеяння партбілетаў, на які яны былі разлічаны, закончыўся. Будзе правільным, калі мы падыдзем да абмену партыйных дакументаў не фармальна, а як да важнага арганізацыйна-палітычнага мерапрыемства. Трэба арганізаваць справу так, каб абмен партыйных білетаў садзейнічаў далейшаму ўмацаванню партыі, павышэнню актыўнасці і дысцыпліны камуністаў. Можна было б ажыццявіць і шматлікія пажаданні камуністаў аб тым, каб на партбілеце быў сілуэт заснавальніка і правадыра Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — Уладзіміра Ільіча Леніна.

У ажыццяўленні палітыкі партыі, працягвае дакладчык, адно з важнейшых месц займаюць **пярвічныя партыйныя арганізацыі.** У нашай партыі іх налічваецца цяпер звыш 370 тысяч — на 45 тысяч больш, чым было напярэдадні XXIII з'езда. У справаздачны перыяд Цэнтральны Камітэт партыі, ЦК Кампартый саюзных рэспублік, крайкомы і абкомы ўдзялялі пастаянную ўвагу гэтым асноўным партыйным звенням. Неабходна і далей узмацняць уплыў пярвічных партарганізацый на работу прадпрыемстваў і ўстаноў. У сувязі з гэтым заслугоўваюць увагі шматлікія прапановы камуністаў і партыйных камітэтаў аб тым, каб удакладніць сфармуляваныя ў Статуце КПСС палажэнні аб праве кантролю дзейнасці адміністрацыі. Гутарка ідзе аб тым, каб



побач з вытворчымі партарганізацыямі такім правам карысталіся пярвічныя партарганізацыі навукова-даследчых інстытутаў, навучальных устаноў, культурна-асветных і лячэбных устаноў. Што датычыць партыйных арганізацый цэнтральных і мясцовых савецкіх, гаспадарчых устаноў і ведамстваў, то яны павінны кантраляваць дзейнасць апарату па выкананні дырэктыў партыі і ўрада.

Тав. Л. І. Брэжнеў адзначыў далей, што ў ходзе падрыхтоўкі да з'езда камуністы выказалі шмат прапаноў, накіраваных на далейшае ўмацаванне ўсіх звенняў партыі, ліквідацыю наяўных недахопаў у рабоце, удасканаленне ўнутрыпартыйнага жыцця. Значная частка іх павінна быць рэалізавана непасрэдна на месцах. Некаторыя ж прапановы носяць агульнапартыйны характар і іх трэба было б разгледзець на з'ездзе. Многія таварышы лічаць, што чарговыя з'езды КПСС трэба склікаць не праз чатыры гады, а праз пяць гадоў. Для такой пастаноўкі пытання, як нам здаецца, ёсць падставы. Правядзенне з'ездаў КПСС праз пяць гадоў дало б магчымасць партыі падводзіць вынікі і намячаць задачы на кожнае чарговае пяцігоддзе ў адпаведнасці з існуючай у нас практыкай планавання народнай гаспадаркі.

З'езды Кампартый саюзных рэспублік прапануецца склікаць таксама раз у пяць гадоў. Што датычыць краявых, абласных, акруговых, гарадскіх і раённых партыйных канферэнцый, то іх можна было б праводзіць два разы ў пяцігоддзе паміж з'ездамі, гэта значыць склікаць праз дватры гады. Відаць мэтазгодна такую ж перыядычнасць устанавіць і для правядзення справаздачна-выбарных сходаў і канферэнцый у пярвічных партарганізацыях, якія маюць парткомы. Ва ўсіх астатніх пярвічных і цэхавых партарганізацыях справаздачы і выбары трэба было б па-ранейшаму праводзіць штогод. Калі гэтыя прапановы атрымаюць адабрэнне дэлегатаў з'езда, то іх можна будзе замацаваць у Статуце КПСС.

Дакладчык падрабязна спыніўся на паляпшэнні падбору, расстаноўкі і выхаванні кадраў.

Наша кадравая палітыка, падкрэсліў ён, накіравана на тое, каб побач з клапатлівымі адносінамі да старых кадраў, максімальным выкарыстаннем іх вопыту і ведаў вылучаць маладых, перспектыўных работнікаў. Гэта абавязковая ўмова пераемнасці палітычнага курсу партыі, яе рэвалюцыйных традыцый.

Павышэнне дысцыпліны і адказнасці кадраў — адна з важнейшых нашых задач. Пры гэтым мы маем на ўвазе дысцыпліну, пабудаваную не на страху, не на метадах жорсткага адміністравання, якія пазбаўляюць людзей упэўненасці, ініцыятывы, параджаюць перастрахоўку і несумленнасць. Гутарка ідзе аб дысцыпліне, пабудаванай на высокай свядомасці і адказнасці людзей. Што ж датычыць работнікаў, якія парушаюць дысцыпліну, не робяць вывадаў з крытыкі, вядуць сябе няправільна, то ў адносінах да іх павінны прымацца неабходныя меры. Кіруючыя пасады ў нас ні за кім не замацоўваюцца навечна. Сацыялістычная дысцыпліна — гэта дысцыпліна, адзіная для ўсіх членаў грамадства, абавязковая для ўсіх і кожнага.

Вялікая ўвага ўдзялялася далейшаму развіццю вучэння аб кіруючай ролі Камуністычнай партыі. Прынцыповая пазіцыя КПСС, яе непрымірымая барацьба за чыстату марксісцка-ленінскага вучэння аб партыі мела міжнароднае значэнне, садзейнічаючы, як падкрэсліваюць брацкія партыі, правільнай арыентацыі камуністаў і мільёнаў працоўных.

Партыя надавала сур'ёзнае значэнне правільнаму аб'ектыўнаму асвятленню гісторыі нашай дзяржавы. Вострай, справядлівай крытыцы былі падвергнуты асобныя спробы з непартыйных, паза класавых пазіцый ацэньваць гістарычны шлях савецкага народа, зменшыць значэнне яго сацыялістычных заваёў. У той жа час партыя паказала негрунтоўнасць дагматычных уяўленняў, якія ігнаруюць тыя вялікія станоўчыя перамены, якія адбыліся ў жыцці нашага грамадства за апошнія гады.

Вопыт мінулых гадоў пераканаўча пацвердзіў, што пераадоленне вынікаў культу асобы, а таксама суб'ектывісцкіх памылак дабратворна адбілася на агульнапалітычнай і перш за ўсё ідэалагічнай абстаноўцы ў краіне. Мы былі і застаемся верныя карэнным прынцыпам марксізма-ленінізма і ніколі не пойдзем ні на якія ўступкі ў ідэйных пытаннях.

КПСС разам з іншымі кіруючымі камуністычнымі партыямі працягвала распрацоўку прынцыповых пытанняў развіцця сусветнай сістэмы сацыялізма. Вывучэнне і абагульненне вопыту адна адной далі магчымасць удакладніць характарыстыку агульных заканамернасцей сацыялістычнага будаўніцтва і паўней раскрыць асноўныя рысы пабудаванага ўжо сацыялізма. Асаблівая ўвага была звернута на выпрацоўку прынцыпаў эканамічнай інтэграцыі і іншых пытанняў, якія ўзнікаюць у працэсе супрацоўніцтва брацкіх краін і партый.

Значнае месца ў тэарэтычнай рабоце партыі занялі аналіз новых з'яў у развіцці сучаснага капіталізму, шляхоў і форм уплыву сусветнага сацыялізма на развіццё несацыялістычнай часткі свету, вывучэнне новых працэсаў у капіталістычнай эканоміцы, якія адбываюцца, у прыватнасці, пад уздзеяннем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

Тэарэтычная работа — важная частка нашага агульнага інтэрнацыянальнага, рэвалюцыйнага абавязку. Процiборства сіл капіталізму і сацыялізма на сусветнай арэне, таксама як і спробы рознага роду рэвізіяністаў выпусташыць рэвалюцыйнае вучэнне, сказіць практыку сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва, патрабуюць ад нас і далей узмоцненай увагі да праблем тэорыі, яе творчага развіцця. Паўтарэнне старых формул там, дзе яны ўжо зжылі сябе, няўменне або нежаданне па-новаму падыходзіць да новых праблем — усё гэта прыносіць шкоду справе, стварае дадатковыя магчымасці для распаўсюджання рэвізіянісцкіх падробліванняў пад марксізм-ленінізм. Пераканаўчасць крытыкі буржуазных і рэвізіянісцкіх наскокаў на нашу тэорыю і практыку ў велізарнай ступені ўзмацняецца тады, калі яна абапіраецца на актыўнае і творчае развіццё грамадскіх навук, марксісцка-ленінскай тэорыі. Партыя лічыць вельмі важным, каб камуністы настойліва авалодвалі тэорыяй марксізма-ленінізма, веданнем законаў грамадскага развіцця, умелі ўпэўнена арыентавацца ў новых з'явах жыцця, даваць ім правільную ацэнку і рабіць правільныя практычныя вывады. Ідэйная загартоўка камуністаў з'яўляецца абавязковай умовай павышэння баяздольнасці партыйных радоў.

Гады, якія мінулі пасля XXIII з'езда, сказаў у заключэнне тав. Л. І. Брэжнеў, былі гадамі далейшага ідэйна-палітычнага і арганізацыйнага згуртавання радоў КПСС, росту актыўнасці камуністаў, умацавання сувязі партыі з масамі. Адзінства інтарэсаў партыі і ўсяго савецкага народа надаюць несакрушальную сілу нашаму грамадству, здольнасць пераадольваць любыя выпрабаванні. Непарыўнае адзінства партыі і ўсіх працоўных — вось што дае магчымасць нам упэўнена рухацца наперад, вырашаць самыя складаныя задачы. Наша партыя вышэй за ўсё цэніць давер'е працоўных, даражыць ім. Усямерна ўмацоўваць нашу вялікую партыю, паглыбляць яе сувязі з народам, з масамі — такі запавет пакінуў нам вялікі Ленін, — і мы будзем верныя гэтаму ленінскаму запавету!

Несакрушальнае маральна-палітычнае адзінства нашага народа. Мы ідзём у адным страі з нашымі сацыялістычнымі сябрамі і саюзнікамі. Мацнее наш баявы саюз з рэвалюцыйнымі сіламі ўсяго свету.

Мы ведаем, што даб'ёмся ўсяго, да чаго імкнёмся, паспяхова вырашым задачы, якія перад сабой ставім. Залогам гэтага былі, ёсць і будуць творчы геній савецкага народа, яго самаадданасць, яго згуртаванасць вакол сваёй Камуністычнай партыі, якая няўхільна ідзе ленінскім курсам.

Даклад таварыша Л. І. Брэжнева быў выслуханы з велізарнай увагай і неаднаразова перапыняўся бурнымі працяглымі апладысментамі.

# СПРАВАЗДАЧНЫ ДАКЛАД ЦЭНТРАЛЬНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ КПСС XXIV З'ЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

## Даклад старшыні камісіі таварыша Г. Ф. СІЗОВА

УСЕНАРОДНЫ палітычны і працоўны ўздым у нашай краіне, сказаў Г. Ф. Сізоў, пад знакам якога праходзіла падрыхтоўка да з'езда, лепшае сведчанне таго, наколькі блізкія і сугучныя ідэі і здзяйсненні партыі надзённым інтарэсам і імкненням савецкіх людзей. Перыяд, які мінуў пасля XXIII з'езда, быў для партыі перыядам актыўнай рэвалюцыйна пераўтваральнай дзейнасці, важным этапам барацьбы за ўвасабленне ў жыццё камуністычных ідэалаў.

Уся разнастайная дзейнасць нашай партыі за справаздачны перыяд была прасякнута творчым, навуковым, сапраўды ленінскім падыходам да вырашэння задач, якія ставяцца жыццём, адзначыў дакладчык. Для стылю работы партыйных арганізацый у міжз'ездаўскі перыяд былі характэрныя рэгулярнасць і арганізаванасць абмеркавання актуальных праблем камуністычнага будаўніцтва, калектыўнасць у выпрацоўцы і прыняцці рашэнняў, чулая ўвага да ўсяго, што падказвае вопыт працоўных мас.

Строгае захаванне норм партыйнага жыцця, удасканаленне стылю партыйнага кіраўніцтва, далейшае разгортванне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі садзейнічалі павышэнню актыўнасці і ў рабоце рэвізійных камісій як цэнтральнай, так і рэвізійных камісій мясцовых партыйных арганізацый.

Згодна са статутам партыі, Цэнтральная рэвізійная камісія сістэматычна кантралявала хуткасць і правільнасць праходжання спраў у апараце ЦК КПСС. Г. Ф. Сізоў паведаміў, што апарат Цэнтральнага Камітэта партыі працуе дакладна і зладжана, з вялікай аператыўнасцю.

Галоўную ўвагу ў сваёй рабоце Цэнтральная рэвізійная камісія ўдзяляла пытанням фінансавай гаспадаркі партыі, выкананню партыйнага бюджэту, правільнаму і ашчаднаму выдаткаванню партыйных сродкаў.

Даходная частка партыйнага бюджэту з году ў год перавыконвалася і за справаздачны перыяд павялічылася на 39,4 працэнта. Пры гэтым галоўнай крыніцай грашовых сродкаў партыі з'яўляюцца членскія партыйныя ўзносы. Яны складаюць дзве трэціх усіх даходаў партыйнага бюджэту.

Члены і кандыдаты ў члены партыі строга захоўваюць устаноўлены парадак уплаты членскіх партыйных узносаў, працягваў прамоўца. Аднак у некаторых пярвічных партыйных арганізацыях ёсць яшчэ асобныя камуністы, якія парушаюць гэты парадак, несвоечасова плацяць членскія ўзносы і дапускаюць запазычанасць за тры і больш месяцаў, а сакратары пярвічных партарганізацый у парушэнне статута партыі прымаюць ад такіх камуністаў членскія ўзносы без абмеркавання на партыйным бюро або партыйным сходзе. Такія факты мелі месца ў пярвічных партыйных арганізацыях Малдаўскай ССР, Краснадарскага і Хабараўскага краёў, Кіраўскай вобласці.

Некаторыя камуністы пры ўплаце членскіх партыйных узносаў не ўлічваюць рознага роду прэмій, літаратурнага ганарару і іншых відаў дадатковых заработкаў і грашовых узнагароджанняў, значыць, плацяць членскія ўзносы не з поўнага заработку.

Сур'ёзным парушэннем партыйнай дысцыпліны трэба лічыць халатныя адносіны некаторых членаў і кандыдатаў у члены партыі да захоўвання партыйных білетаў і кандыдацкіх картак, найбольшыя згубленні якіх у 1970 годзе мелі месца у Алтайскай, Башкірскай, Літоўскай, Харкаўскай і шэрагу іншых партыйных арганізацый.

Другая пасля партыйных узносаў крыніца даходаў партыі — гэта адлічэнне ад прыбыткаў партыйных выдавецтваў, сказаў дакладчык. За справаздачны перыяд прыбыткі ад выдавецкай дзейнасці ўзраслі на 43,7 працэнта.

Цяпер партыя мае, побач з цэнтральнымі выдавецтвамі, такія, як «Правда» і палітвыдавецтва, 78 рэспубліканскіх, краявых і абласных выдавецтваў.

У 1970 годзе партыйныя выдавецтвы, выпускалі 274 газеты разавым тыражом 67 мільёнаў экземпляраў і 226 часопісаў разавым тыражом 69,4 мільёна экземпляраў. За апошнія гады значна ўзрос тыраж цэнтральнага органа партыі — газеты «Правда» і газеты ЦК КПСС «Сельская жизнь», часопісаў «Коммунист», «Партийная жизнь» і іншых партыйных выданняў.

У справаздачным дакладзе цэнтральнай рэвізійнай камісіі адзначаецца, што рост даходаў партыі даў магчымасць забяспечыць бесперабойнае фінансаванне ўсіх мерапрыемстваў, праводзімых Цэнтральным Камітэтам КПСС і мясцовымі партыйнымі органамі.

Фінансавая гаспадарка партыі грунтуецца, як вядома, на адзіным цэнтралізаваным бюджэце. У цэлым па партыі бюджэт складаецца з перавышэннем даходаў над расходамі. За кошт уласных сродкаў партыі поўнасцю забяспечваюцца ўсе расходы на арганізацыйна-партыйную работу, прапаганду, утрыманне партыйнага апарату, будаўніцтва службовых і жылых будынкаў, гаспадарчыя і іншыя патрэбнасці.

За справаздачны перыяд універсітэты марксізма-ленінізма закончыла каля 500 тысяч чалавек.

Цэнтральная рэвізійная камісія далажыла з'езду, што выдаткаванне сродкаў як у Цэнтральным Камітэце партыі, так і ў мясцовых партыйных арганізацыях праводзіцца эканомна і мэтазгодна, у адпаведнасці з каштарыснымі асігнаваннямі.

Аднак некаторыя гаркомы і райкомы партыі парушалі фінансавую дысцыпліну і дапускалі перарасходы сродкаў галоўным чынам па такіх артыкулах, як канцылярскія, паштова-тэлеграфныя, камандзіровачныя і гаспадарчыя расходы.

Гаворачы аб кантролі Цэнтральнай рэвізійнай камісіяй КПСС за праходжаннем і разглядам пісьмаў, заяў і скаргаў працоўных, якія паступаюць у Цэнтральны Камітэт партыі, рэдакцыі газет і часопісаў ЦК Г. Ф. Сізоў адзначыў, што за апошнія гады характар пісьмаў, якія паступаюць у Цэнтральны Камітэт, значна змяніўся — побач са скаргамі асабістага характару, усё часцей у пісьмах узнімаюцца пытанні вялікай сацыяльнай значнасці. Праверка паказала, што работа з пісьмамі за справаздачны перыяд значна палепшылася. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічала пастанова ЦК КПСС «Аб паляпшэнні работы па разглядзе пісьмаў і арганізацыі прыёму працоўных».

Увайшло ў сістэму складанне для Палітбюро і сакратарыята ЦК КПСС інфармацыйных запісак па найбольш характэрных пытаннях, якія змяшчаюцца ў пісьмах працоўных.

За 1966—1970 гады значная колькасць заяў і прапаноў была разгледжана на пасяджэнні сакратарыята ЦК, некаторыя пытанні па даручэнні ЦК разглядаліся ў Савеце Міністраў СССР і па іх прымаліся адпаведныя рашэнні.

Апрача праверкі праходжання пісьмаў і скаргаў працоўных у аддзелах ЦК КПСС, Цэнтральная рэвізійная камісія праводзіць значную работу з пісьмамі і скаргамі, якія паступаюць на яе адрас. За справаздачны перыяд на яе адрас паступіла каля сямі тысяч пісьмаў, скаргаў і прапаноў.

Рэвізійныя камісіі рэспубліканскіх, краявых і абласных партыйных арганізацый таксама ў сваю чаргу сочаць за праходжаннем і разглядам пісьмаў і скаргаў.

Аднак, як паказалі праверкі, ёсць выпадкі парушэння тэрмінаў разгляду пісьмаў, скаргаў і прапаноў, фармальных да іх адносін, не ўсе рашэнні, прынятыя па пісьмах і заявах, паслядоўна ажыццяўляюцца.

За апошнія гады ў сувязі з ростам партыі, якая налічвае ў сваіх радах звыш 14 мільёнаў членаў і кандыдатаў, узрос партыйны бюджэт, а разам з ім і аб'ём фінансавай работы мясцовых партыйных арганізацый, узраслі і задачы рэвізійных камісій, працягваў прамоўца.

У заключэнне дакладчык выказаў упэўненасць у тым, што рашэнні XXIV з'езда партыі знойдуць найшырэйшую агульнанародную падтрымку. Іх як баявую праграму ўспрымуць рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыя, кожны савецкі чалавек. Пад сцягам Леніна, пад вадзіцельствам вялікай партыі камуністаў рашэнні з'езда будуць ажыццёўлены!

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Як толькі наша літаратурная брыгада — П. Пестрак, П. Макаль, Р. Тармола, Ю. Голуб і А. Гардзіцкі — прыехала ў Слонім, усе адразу адчулі ветлівасць і шчырасць гаспадароў, іх сардэчнасць і гасціннасць: на вакзале грамадскасць горада на чале з сакратаром райкома КПБ З. Каплуновай сустрэла нас кветкамі.

Першае спатканне з чытачамі адбылося ў сярэдняй школе № 10. Прыняўшы з рук гаспадароў хлеб-соль, ветэран беларускай літаратуры Піліп Пестрак усхвалявана звярнуўся да прысутных са словамі ўдзячнасці і пажаданнямі поспехаў у жыцці, вучобе, працы.

Крытык Аляксей Гардзіцкі расказаў аб поспехах беларускай літаратуры, падкрэсліў, што многія творы нашых пісьменнікаў сталі шырока вядомы не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі.

Настаўніца М. Прохарава падзякавала літаратараў за змястоўныя выступленні і ад імя прысутных папрасіла прыняць кветкі і слонімскія сувеніры.

У гэты ж дзень у калгасе імя Дзяржынскага адбылася другая сустрэча на гасціннай зямлі Слонімшчыны.

— Ад шчырага сэрца мы вітаем вас, дарагія нашы сябры, на радзіме выдатнага беларускага паэта Валянціна Таўлая! — вітаў гасцей сакратар партыйнай арганізацыі калгаса І. Арочка.

Было ўжо даволі позна, а калгаснікі ўсё пыталіся пра навінкі беларускай літаратуры, цікавіліся, над чым працуюць літаратары, прасілі пакінуць у кніжках аўтографы.

Апоўначы мы выехалі з калгаса. Піліп Пестрак, дзелячыся ўражаннямі, гаварыў:

— Гэта ж так выраслі людзі за апошні час! А як любяць і шануюць родную літаратуру! А мы, хлопцы, перад імі яшчэ ў вялікім даўгу.

Гэтае пачуццё абавязку перад чытачамі не пакідала нас і на Зэльвеншчыне, асабліва пасля сустрэчы з першым сакратаром райкома КПБ Н. Шыхаўцом. З гонарам расказваў ён нам пра перадавую свінарку Серафіму Казакевіч з калгаса «Новае жыццё», пра хлебаробаў, якія на круг збіраюць па 30 цэнтнераў з гектара збожжавых.

Вялікую цікавасць да роднай літаратуры, любоў да яе мы адчулі ў Доме Саветаў Зэльвы, дзе сабраліся рабочыя, настаўнікі, інжынеры, вучні старэйшых класаў. Сакратар райкома КПБ В. Брыкач, выступаючы з прывітальным словам, назваў гэту сустрэчу «духоўным святам Зэльвеншчыны».

Такая ж цёплая сустрэча адбылася і ў калгасе імя Чарняхоўскага, куды мы паехалі вечарам.

А раніцай зноў бегла пад колы аўтобуса дарога, якая вяла нас у Ваўкавыск. На мяжы раёна нас сустрэў сакратар райкома КПБ Я. Рабко.

— Вітаю вас на нашай зямлі, — гаварыў ён. — Няхай зэльвенцы не крыўдуюць, але можа вам у нас будзе яшчэ лепей. Вас ужо з нецярплівасцю чакаюць у гарадскім Палацы культуры.

Хуценька ўладкаваўшыся ў гасцініцы, мы адразу пайшлі ў палац. Адразу кінулася ў вочы выстаўка-продаж беларускай літаратуры, ля якой тоўпіліся людзі. Я падумаў, што больш за ўсіх будзе работы Піліпу Пестраку, бо яго раман «Сустрэнемся на барыкадах» быў амаль у кожнага.

Пісьменнікаў вітала студэнтка педвучылішча Галіна Маліко:

— Вы прыехалі да нас з першымі подыхамі вясны. Як не стрымаць бурлівых вясновых ручаін, так не стрымаць і нашай радасці, якую мы цалкам аддаем вам, на творах, на якіх мы вучыліся і вучымся жыць і працаваць!

— Змагаючыся за Савецкую ўладу пры буржуазнай Польшчы, я правёў у турмах Гродзеншчыны восем гадоў, — сказаў у заключэнне Піліп Пестрак. — І вельмі рады вам сказаць, што не дарма пакутаваў я і мае таварышы — жывяце вы шчасліва, заможна. Дык хай ваша жыццё яшчэ больш квітнее!

Вельмі цёплая і цікавая сустрэча адбылася з рабочымі саўгаса «Волпа».

Раніца сустрэла нас яркім вясновым сонцам. Чорныя вільготныя палі мільгалі за вокнамі аўтобуса — мы ехалі ў Свіслацкі раён, на радзіму легендарнага Кастуся Каліноўскага.

Першы сакратар Свіслацкага райкома КПБ А. Апрышчанка расказаў нам пра раён, пра яго людзей, паведаміў, што раён на працягу ўсёй мінулай пяцігодкі трымаў першае месца ў рэспубліцы па здачы мяса дзяржаве.

Не спыняў Аляксей Антонавіч свайго расказу і тады, калі мы ішлі па вуліцах райцэнтра ў сярэднюю школу, дзе нас чакалі вучні і настаўнікі, дзе нас цёпла вітала дзесяцікласніца Алена Акулава, дзе свой верш, прысвечаны барацьбе за мір, пранікнёна прачытала вучаніца Людміла Радзецкая. Адразу між пісьменнікамі і слухачамі ў зале ўзнік кантакт, сустрэча ператварылася ў шчырую гаворку.

Вечарам, едучы да хлебаробаў калгаса імя Аляксандра Неўскага, мы яшчэ раз былі прыемна ўражаны: Аляксей Антонавіч Апрышчанка чытаў нам свае вершы! Ён вельмі любіць літаратуру, багата чытае. Дзякуючы яго клопатам, у райцэнтры пабудаваны вялікі кніжны магазін, у якім ён вельмі часты госць.

Старшыня калгаса М. Хейлік здзівіў нас не толькі гасціннасцю, але і глыбокім веданнем беларускай літаратуры. У адным толькі яго калгасе нам давялося пакінуць аўтографаў больш, чым, скажам, ва ўсім Слонімскім раёне.

Раніцай нас чакала яшчэ адна неспадзеўка. Загадчык мясцовай аматарскай кінастудыі Казімір Кучынскі запрасіў нас у залу кінатэатра і паказаў фільм аб нашых сустрэчах, які ён здымаў... учора.

Мы ехалі ў Бераставіцу з лёгкім сумам, што заўсёды ўзнікае, калі развітваешся з людзьмі, якія запалі табе ў сэрца. З гэтага стану нас адразу вывеў першы сакратар райкома КПБ Н. Рыбак. Вясёлы, малады, да краёў перапоўнены энергіяй, ён захапіў нас сваёй эрудыцыяй і жыццялюбствам. Сустрэча ў кінатэатры з жыхарамі райцэнтра зацягнулася. Пісьменнікі расказвалі аб сваіх творах і задумах, дзяліліся творчым і жыццёвым вопытам, чыталі свае творы. З гарачымі словамі падзякі да іх звярнуліся настаўніца сярэдняй школы Я. Стасевіч і вучаніца Людміла Чэвель.

Вечарам таго ж дня мы сустрэліся з хлебаробамі калгаса «Першае мая» і калектывам рабочых і служачых раённага аб'яднання «Сельгастэхніка».

Раніцай мы ехалі ў Гродна. Несупынна плыла насустрач дарога. Дарога да новых сустрэч, да новых людзей, да іх сэрцаў.

**А. ШЛЕГ.**

# АД СМАРГОНІ ДА ВОРАНАВА

За намі ўслед ішла вясна. У Мінску ішоў снег, а калі мы пад'язджалі да Смаргоні — з-пад аўтамабільных колаў ляцелі пырскі вады.

Радыёрэпрадуктар аб'явіў у аўтобусе, што на Гродзеншчыне пачынаюцца дні літаратуры. Хведар Чэрня, Алесь Ставер і я пераглянуліся паміж сабою — гэта ж у пэўнай меры датычылася і нас, удзельнікаў гэтых дзён. Мы павінны наведаць Смаргонскі, Ашмянскі, Астравецкі, Іўеўскі і Воранаўскі раёны.

Прадстаўнікі партыйных і савецкіх устаноў, работнікі друку шчыра нас сустрэлі на Смаргонскім аўтавакзале. Тут мы даведаліся, што да нашай групы далучаюцца гродзенцы — паэт Мар'ян Дукса і празаік Аляксей Карпюк, і што на ўвесь час дзён літаратуры нашу групу будзе суправаджаць галоўны рэдактар абласной газеты «Гродненская правда» Аляксандр Богуш.

Пасля невялікага перапынку мы, удзельнікі дзён літаратуры, наведалі камбінат сілікатных вырабаў. Там нас захаплялі не толькі вялізныя перакрыцці, жалеза-бетонныя пліты, гіганцкія печы — нас захаплялі простыя людзі, якія напярэдадні XXIV з'езда КПСС з натхнёнай адданасцю множылі славу рабочага класа. Вечарам у клубе Заходняга пасёлка адбыўся вялікі літаратурны вечар. На гэтым вечары першы сакратар райкома КПБ А. Патапаў сардэчна нас вітаў і расказаў аб гаспадарчым і культурным жыцці раёна.

Раніцою 17 сакавіка ля вёскі Жупраны нас сустрэлі працоўныя Ашмянскага раёна. Сакратар райкома партыі І. Сухоцкі падносіць нам хлеб-соль. Накіроўваемся да помніка Францішку Багушэвічу, ускладаем кветкі. Наведваем музей Ф. Багушэвіча ў Жупранскай школе, у гэтай жа школе праводзім літаратурны вечар. А праз некалькі гадзін такія ж вечары адбыліся ў Ашмянскай сярэдняй школе № 1 і ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Позна вечарам у калгасным клубе арцелі «30 год БССР» адбылося заключнае наша выступленне ў Ашмянскім раёне.

Астравецкі раён — цудоўная мясціна азёр і рэчак, лясоў і гаёў. Каля дзесяці гадоў таму назад я праязджаў па гэтых дарогах. Колькі тут было саламяных стрэх, напаўразбураных будынін, глухіх хутароў. Якія рэзкія змены! Цагляныя аборы і канюшні, новыя калгасныя дамы, а на іх, амаль на кожным — тэле- і радыёантэны. Непазнавальным стаў гарадскі пасёлак Астравец. Вырасла некалькі новых вуліц з мураванымі будынкамі.

Цёплая сустрэча адбылася 18 сакавіка ў Астравецкім раённым Доме культуры. Рабочыя і служачыя, настаўнікі і старшакласнікі ўважліва слухалі нашы выступленні, цёпла нас віталі, вялі сардэчныя размовы, прасілі даць аўтографы.

Незабыўнай у нашай памяці застанецца сустрэча на літаратурным вечары ў калгасе імя Карла Маркса.

На чацвёрты дзень 19 сакавіка, мы апынуліся ў Іўеўскім раёне. У актавай зале Іўеўскай сярэдняй школы сабраліся рабочыя і служачыя, настаўнікі і вучні. Сакратар райкома партыі Р. Казунко, адкрываючы ўрачысты вечар, падкрэслівае вялікае значэнне сустрэч чытачоў з пісьменнікамі. Настаўніца В. Сапронава гаворыць аб тым, з якой цікавасцю і захапленнем чытаюць настаўнікі і вучні кнігі беларускіх пісьменнікаў.

Позна вечарам у вёсцы Ліпнішкі клуб запоўнілі калгаснікі арцелі «Авангард», рабочыя і служачыя раённага аб'яднання «Сельгастэхніка».

У гарадскі пасёлак Воранава мы прыехалі раніцою 20 сакавіка. Гэты раён за апошнія гады дасягнуў значных поспехаў у развіцці сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Простая і сардэчная гутарка з намі першага сакратара РК КПБ, дэлегата XXIV з'езда КПСС Паўла Антонавіча Васілеўскага пакінула ў сэрцы кожнага з нас глыбокі след.

Вялікімі літаратурнымі вечарамі ў гэты дзень у раённым Доме культуры, а пасля ў саўгасе «Беняконскі» закончыліся нашы выступленні.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ







Апошнія тыдні тэатральнага жыцця рэспублікі багатыя на прэм'еры. У Брэсце тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі выпусціў у пастаноўцы рэжысёра Г. Баравіка і ў афармленні мастака Ф. Назарава «Трыбунал» А. Макаёнка (на здымку ў цэнтры — сцэна са спектакля). Віцябляне ўбачылі на сцэне тэатра імя Якуба Коласа камедыю Шэкспіра «Многа шуму з нічога», перакладзеную на беларускую мову П. Макалём, пастаўленую галоўным рэжысёрам тэатра С. Казіміроўскім, афармленую мастаком А. Салаўёвым (на здымку злева вы бачыце Беатрычэ — Г. Маркіну і Бенядзікта — У. Куляшова). Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі ў Бабруйску ўзбагаціў рэпертуар п'есай венгерскага драматурга М. Д'ярфаша «Прачніся і спявай». Пастаўлена яна галоўным рэжысёрам В. Каралько ў дэкарацыях І. Чумакова і з танцамі С. Дрэчына. На здымку справа — героі спектакля — Карала (Э. Шклярава) і Д'юла (В. Шушкевіч).

Фота С. КОХАНА, В. ГЕРМАНА (БЕЛТА) і Р. ГАНІКМАНА.



# ЖЫВАЯ ВАДА НАВУКІ

**На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. А. БАРЫСЕВІЧ**



М. Барысевіч (злева) са сваімі вучнямі ў лабараторыі інфрачырвонай спектраскапіі АН БССР.

КАЖУЦЬ, што навука пачынаецца там, дзе канчаецца вядомае. І разам з тым, сёння жывая вада навукі — магутная вытворчая сіла. Яна мяняе аблічча зямлі, уладарна ўрываецца ва ўсе галіны чалавечай дзейнасці.

Напярэдадні XXIV з'езда КПСС мы папрасілі прэзідэнта Акадэміі навук БССР, дэлегата з'езда Мікалая Аляксандравіча Барысевіча расказаць пра пошукі і здабыткі беларускіх вучоных, пра магістральныя шляхі развіцця беларускай навукі.

— Пачну з таго, што наша акадэмія— адно з буйных звенняў савецкай навукі,—гаворыць Мікалай Аляксандравіч. — Нагадаю толькі дзве лічбы. У 30 навуковых арганізацыях, якія аб'ядноўвае акадэмія, працуе 9 тысяч супрацоўнікаў. Сярод іх нямала вучоных, якія сваімі працамі вядомы далёка за межамі рэспублікі і краіны.

Гаварыць пра ўсе аспекты дзейнасці нашых вучоных, заняло б многа часу, таму спынюся на самым галоўным, што вызначае сёння беларускую навуку.

У праекце Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі сярод задач па развіцці фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў і ўкараненні іх вынікаў у народную гаспадарку, першачарговае значэнне надаецца далейшай распрацоўцы праблем тэарэтычнай і прыкладной матэматыкі і кібернетыкі для больш шырокага ўжывання ў народнай гаспадарцы матэматычных метадаў і электронна-вылічальнай тэхнікі, аўтаматызацыі працэсаў вытворчасці і ўдасканалення кіравання.

Гэта невыпадкова. На маю думку, галоўным звяном навукова-тэхнічнага прагрэсу з'яўляецца электронная вылічальная тэхніка. ЭВМ даюць магчымасць па-новаму, з большай дакладнасцю кіраваць эканомікай, аўтаматызаваць вытворчасць, аналізаваць сацыяльныя працэсы, не кажучы пра тое, што камп'ютэры адкрылі магчымасць ужывання матэматычнага аналізу там, дзе гэта немагчыма было зрабіць з-за недасягальнага аб'ёму вылічэнняў.

Непасрэдна распрацоўкай тэорыі і метадаў выкарыстання электроннай вылічальнай тэхнікі займаюцца нашы інстытуты матэматыкі і тэхнічнай кібернетыкі.

Інстытут матэматыкі разам з Мінскім філіялам Усесаюзнага навукова-даследчага цэнтра электронна-вылічальнай тэхнікі распрацаваў універсальнае матэматычнае забеспячэнне вылічальных машын мінскай серыі.

За стварэнне гэтых машын і за работы па іх матэматычным забеспячэнні групе беларускіх інжынераў і вучоных летась была прысуджана Дзяржаўная прэмія. Сярод лаўрэатаў — кіраўнік лабараторыі інстытута матэматыкі Г. Сталяроў. За распрацоўку матэматычнага забеспячэння кіраўнік другой лабараторыі таго ж інстытута М. Шкут удастоены прэміі ВЛКСМ.

Інстытут матэматыкі за гэтыя работы атрымаў таксама сярэбраны і два бронзавыя медалі ВДНГ СССР.

Наогул, мінулы год быў для акадэміі ўраджайны на медалі ВДНГ. Нашы інстытуты атрымалі 30 медаляў, з іх тры залатыя, 6 — сярэбраных, 21 — бронзавы.

— Узнагароды Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі, як я разумею, сведчанне паспяховай, калі можна так сказаць, практычнай апрабацыі навуковых пошукаў?

— Гэта не апрабацыя, а самае шырокае ўкараненне навуковых адкрыццяў у практыку. Інстытут фізікі заслужыў вядомасць як буйны цэнтр тэарэтычных і эксперыментальных даследаванняў у галіне фізічнай оптыкі і квантавай электронікі. У апошнія гады ў інстытуце пачало развівацца прыборабудаванне. За распрацоўку арыгінальных аптычных квантавых генератараў інстытут атрымаў дыплом ВДНГ, залаты, 2 сярэбраныя і 6 бронзавых медаляў.

Або возьмем інстытут механікі металапалімерных сістэм. Яго распрацоўкі металапалімерных матэрыялаў і канструкцый, прыбораў для навуковых даследаванняў укараняюцца ў вытворчасць са значным эканамічным эфектам, які летась склаў 235 тысяч рублёў. І яшчэ такі штрых. Дырэктару інстытута, члену-карэспандэнту акадэміі Ул. Беламу летась у Парыжы быў уручаны медаль Жакарта за даклад па прыродзе трэння і зносу ў металапалімерных кантактах. Ці гэта не сведчанне міжнароднага аўтарытэту беларускай навукі!

Яшчэ. За распрацоўку тэхнічных сродкаў і матэматычнага забеспячэння дакументавання вынікаў праектавання Інстытут тэхнічнай кібернетыкі ўдастоены залатога медаля на Лейпцыгскім кірмашы 1970 года.

Усё цяжка пералічыць, але дазволю сабе спыніцца яшчэ на адным прыкладзе. Лабараторыя тэрмадынамікі іёнаабменных працэсаў Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі правяла вялікі цыкл даследаванняў па атрыманні паўнацэнных спажыўных сумесяў для вырошчвання раслін на аснове іянітаў. Распрацаваны два метады атрымання іянітных глеб. Ужо ў першай палове гэтага года плануецца атрымаць першую прамысловую партыю штучнай глебы.

Каштоўныя навуковыя вынікі, якія маюць вялікае практычнае значэнне, атрыманы ў многіх іншых інстытутах — фізіялогіі, генетыкі і цыталогіі, ядзернай энергетыкі...

Дастаткова адзначыць, што толькі па гаспадарчых дагаворах Акадэмія распрацавала летась 149 тэм на суму больш 8,5 мільёна рублёў.

— Мікалай Аляксандравіч, ці вялікая дыстанцыя ад лабараторыі вучонага, дзе зроблена навуковае адкрыццё, да яго практычнага прымянення?

— Новае часам вельмі цяжка прабівае сабе дарогу, таму што, відаць, ламае старыя, звычныя ўяўленні, традыцыі і г. д. Не ўсім гэта падабаецца. А бывае, што на шляху новага проста стаіць коснасць, лянота, боязь рызыкі. Скажам, завод выконвае план са старым абсталяваннем пры старым тэхналагічным працэсе. Вучоны прапануе новую тэхналогію, якая абяцае вялікі выйгрыш. Здавалася б, прамыслоўцы павінны ўхапіцца за гэту прапанову абедзвюма рукамі. Але ж не. Пачынаецца бясконцая пісаніна, дзе высоўваюцца розныя «аб'ектыўныя» прычыны, якія, маўляў, не даюць магчымасці ўкараніць новы спосаб. За гэтымі «аб'ектыўнымі» прычынамі хаваецца часам элементарная боязь новых клопатаў, адказнасці.

Я не абсалютызую. Такія выпадкі ў нас не правіла. Але яны бываюць. Я б мог назваць прадпрыемствы, якім былі прапанаваны тэхнічна дасканалыя і эканамічна выгадныя рашэнні, і тым не менш яны не ўкараняюцца там. Нельга прызнаць нармальным і тое, калі ўкараненне абмяжоўваецца адным або некалькімі прадпрыемствамі і не распаўсюджваецца на ўсю галіну. Краіна на гэтым губляе мільёны рублёў.

Дарэчы, тэма барацьбы новага са старым, наватара з кансерватарам не новая для нашай літаратуры, драматургіі ў прыватнасці. Шкада толькі, што часам гэтая барацьба паказваецца схематычна, як кажуць, у лоб.

Я пытаю ў прэзідэнта, ці не з'яўляецца часам гэтая «боязь» новага вынікам таго, што вучоны аднойчы паспяшыў са сваімі вывадамі, якія пры практычнай праверцы не апраўдалі сябе. Вядомы выпадкі, калі вучоныя эксперыментавалі, як кажуць, па жывым целе. Я расказваю Мікалаю Аляксандравічу, як некалькі гадоў таму ў адным з калгасаў Дзяржынскага раёна доктар біялагічных навук (прозвішча яго зараз называць, відаць, не абавязкова) укараняў на ферме сумеснае ўтрыманне кныроў. Вынік быў вельмі сумны. Другі вучоны, на гэты раз у адным з саўгасаў Смалявіцкага раёна папаліў гербіцыдамі ледзь не палову пасеваў гародніны. Абодвух «дзеячоў» навукі, мякка кажучы, папрасілі з гэтых гаспадарак. Натуральна, давер да навукі тут быў моцна падарваны...

— Я магу толькі сказаць, што самая чыстая, святая справа мае і нейкія свае негатыўныя бакі. Сярод шматтысячнай арміі вучоных магло і можа аказацца



ВЯСНА ІДЗЕ... Мал. А. САПЕТКІ.



У гонар XXIV з'езда КПСС у Мінску прайшлі раённыя агляды мастацкай самадзейнасці. Бачыце, як выглядала жаночая група хору з пасёлка «Дачнае», калі выконвала прыпеўкі...

# ПАЭЗІЯ І ЧАС

*СА СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАГА СХОДУ СЕКЦЫІ ПАЭЗІІ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ*

25 САКАВІКА ў Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся справаздачна-выбарчы сход секцыі паэзіі. З дакладам на ім выступіў старшыня секцыі С. Грахоўскі. Ён падрабязна прааналізаваў здабыткі мінулага года ў жанры паэзіі, выказаў трывогу тым, што за апошнія тры гады выдавецтва «Беларусь» зменшыла выданне паэтычных кніжак. Калі, напрыклад, у 1969 годзе выйшла ў свет 33 зборнікі паэзіі, то ў 1970 годзе — толькі 16. У той жа час, рукапісы, якія трэба было б дапрацаваць, некаторыя рэцэнзенты блаславляюць у друк.

С. Грахоўскі адзначыў таксама, што многія кніжкі паэзіі, як і прозы не заўважаюцца і недаацэньваюцца крытыкай. Калі ж і з'яўляюцца рэцэнзіі, дык яны часцей за ўсё носяць інфармацыйны характар, без пранікнення ў асаблівасці творчай манеры аўтара, без аналізу зместу і формы, радка і слова.

Работа секцыі паэзіі была б значна цікавейшая, каб мы выносілі на абмеркаванне секцыі новыя, яшчэ ненадрукаваныя творы пісьменнікаў, — гаворыць далей С. Грахоўскі. — А абмяркоўваць нам ёсць што. Мы радуемся маладой па тэмпераменту і мудрай па думцы паэзіі А. Куляшова, М. Танка, П. Броўкі, П. Панчанкі, А. Русецкага; нас хвалююць новыя вершы А. Вялюгіна, К. Кірэенкі, А. Пысіна, А. Зарыцкага, В. Віткі, А. Звонака, М. Аўрамчыка, А. Бачылы, ра-

# МАСТАЦТВА ПЕРАЎВАСАБЛЕННЯ

**БАРЫС ЗАБОРАЎ... СТАНКАВЫЯ ГРАВЮРЫ, ІЛЮСТРАЦЫІ ДА КНІГ, ЗРОБЛЕНЫЯ ГЭТЫМ МАСТАКОМ, ВЫЗНАЧАЮЦЦА ГЛЫБІНЁЙ ДУМКІ, БАГАТАЙ ФАНТАЗІЯЙ, ФІЛІГРАННЫМ ВАЛОДАННЕМ СКЛАДАНАЙ ГРАФІЧНАЙ ТЭХНІКАЙ. У ГЭТЫМ АРТЫКУЛЕ ІДЗЕ ГАВОРКА ПРА НОВЫЯ РАБОТЫ Б. ЗАБОРАВА, ПАКАЗАНЫЯ НА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎЦЫ, ПРЫСВЕЧАНАЙ XXVII З'ЕЗДУ КПБ і XXIV З'ЕЗДУ КПСС.**

НОВЫЯ работы Б. Заборава ўражваюць. На выстаўцы паказаны ілюстрацыі да югаслаўскіх народных казак, да «Караля Maцівуша» Я. Корчака і, нарэшце, — да «Пакорлівай» Ф. Дастаеўскага. Гэта—тры розныя светы і адзінае, самабытнае «бачанне» чалавека.

Ілюстрацыі да югаслаўскіх казак перш за ўсё казачныя. Гэта — рэдкасць зараз, калі ў мастакоў стала модай «узрываць» казку іроніяй або «зазямляць» яе псіхалогіяй.

Вось певень: дзюбу раскрыў, кіпцюры выпусціў, хвост распушыў, казачны хвост, бы ў паўліна. І столькі злосці ў птушцы, столькі напору, столькі самаўпэўненага гонару, што адразу ж адчуваеш: певень няпросты, ён, напэўна, і гаварыць умее.

Яшчэ малюнак. Стаіць мужык перад святым Пётрам. Ногі босыя, штаны падраныя, рукі велізарныя, растапыраныя, а тварам такі спакойны, што нічым яго, відаць, не здзівіш. Іншы, можа, на калені б упаў або хоць павагу выказаў: як-ніяк святы Пётра, у бога давераны. А гэты мужык—нуль увагі: ведай сабе, кіёчкам памахвае—прымушае чарцей танцаваць, жаданні яго выконваць, волі яго слухацца. Побач з ім апостал бездапаможным здаецца: ручкі маленькія, пальцы тоненькія, сам лысенькі, толькі з бакоў, над вушамі, сівыя кудзеркі тырчаць; няма ў яго ніякага ўсёведання, а—недаўменне: што там яшчэ мужык утворыць?

Здавалася б, туш і бялілы, якімі выкананы малюнкі, няздольныя выказаць шматколерны свет казкі. А між тым уражанне застаецца менавіта незвычайнай яркасці, паўнаты і кіпення жыццёвых сіл, маляўнічай шчодрасці быцця. У манеры малюнка няма прамой стылізацыі пад фальклор, ды яна б тут толькі перашкаджала; але нешта ад югаслаўскага іканапісу, ад лубка харвацкага, сербскага і балгарскага «ў знятым выглядзе» прысутнічае тут. Так ствараецца магчымасць перадаць не толькі нацыянальны каларыт; абагульненасць манеры і нейкая заядласць яе дапамагае мастаку за сюжэтам казкі раскрыць яе дух: тое, што казка—заўсёды размова аб сутнасці — сутнасці свету, людзей, сутнасці сацыяльных сіл, што казка, нават самая гарэзлівая, заўсёды глыбінна сур'ёзная, пазбаўлена іроніі або скепсісу і заўсёды гераічная, заўсёды сцвярджае жыццё і магутнасць чалавека.

Малюнкі Б. Заборава — гэта «сюжэтныя ілюстрацыі» да казак, але такія, якія, захоўваючы ўсю казачнасць, усю прастадушнасць казкі, выклікаюць раптоўнае дзівоснае адчуванне: ды гэты ж малюнак—аб бяссіллі несправядлівай, панскай улады, а вунь той — аб усясіллі чалавечага бясстрашша... І ты адразу, не разважаючы, верыш таму, што сказаў мастак.

Аповесць Я. Корчака і па форме, і па змесце—казка. Але калі ў фальклоры казка — народнае адчуванне свету, дык тут гэта—літаратурны прыём, народжаны смуткам дарослага чалавека па сонечным, даверлівым духоўным свеце чалавека, які супрацьстаіць трагічнаму. Калі глядзіш ілюстрацыі да Я. Корчака Б. Заборава, дык спачатку здаецца, што да югаслаўскіх казак рабіў малюнкі нейкі іншы мастак.

Паэзія і філасофія Корчака пачынаюць сваю размову з чытачом адразу, з вокладкі. Гэта—палац, але такі, якія бываюць толькі ў снах або ў казках. Увесь сіні і блакітны, ён як быццам зроблены з неба, а не з каменя або цэглы. Ён уздымаецца ў неба ўсімі сваімі флюгерамі, вежамі, купаламі: ён свой сярод зорак, якія таксама здаюцца нібы часткай гэтага палаца. Вокны ззяюць і вабяць такой, нібы сардэчнай, цеплынёй чырвоных, жоўтых, аранжавых агеньчыкаў. Але тут—ні душы. Толькі ў адным акне, высока-высока, так, што нават паветраны змей да яго не дастане,—маленькі хлопчык і лялька, падобная на Пятрушку. Дзіўны твар у хлопчыка, неяк нават не верыцца, што ў дзяцей бываюць такія твары. Ён асабліва засяроджаны на тым, што ўнутры, у душы, і ў той жа час выпраменьвае вонкі, у свет — усім, хто ўбачыць, усім, хто захоча ўбачыць, — унутранае святло.

На ўсіх астатніх ілюстрацыях у твары хлопчыка—тое ж святло, тая ж задумлівасць, тая ж засяроджанасць, той жа смутак.

Вось хлопчык на троне. Маленькі, ён здаецца тут яшчэ меншым: зусім безабаронным, зусім асуджаным, і ўсё-такі відаць (Як? Чаму? Але ўсё-такі відаць!): няма такой сілы, якая пагасіла б гэта святло, зрабіла гэты твар бяздумным і раўнадушным... А над яго галавой — каралеўскі арол, жалезная птушка з жорсткім і вялым тварам, якая намёртва, назаўсёды ўчапілася кіпцюрамі ў вяршыню трона, як быццам душы ўсіх папярэднікаў караля ўвайшлі ў яе і засталіся ў ёй.

Яшчэ мацней адчуваюцца асуджанасць хлопчыка і нязломнасць яго там, дзе ён намаляваны сярод сваёй варты. «Ахоўнікаў парадку» чацвёра, але дваіх мы бачым у твар, а ў другой пары — толькі ногі. Між іншым, у ног і ў твараў—калі можна так сказаць—адзін выраз: ціхамірнай нечалавечнасці, ціхамірнай упэўненасці, што ўсё на свеце вельмі добра, што думаць у свеце непатрэбна, а трэба выконваць загады, ціхамірнай гатоўнасці растаптаць нагамі ўсіх і кожнага, быў бы толькі загад таптаць. Maцівуш між імі — як у клетцы.

Трагедыя дабра, калі дабро гэтае «без кулакоў», і чалавечай думкі, калі думка гэта адзінокая, асуджанасць свабоднай душы ў свеце рабства і раўнадушнасці—вось аб чым расказаў Забораў у ілюстрацыях да Я. Корчака. Але не толькі аб гэтым. Яшчэ і пра тое, што нічым немагчыма пагасіць святло ў бясстрашнай душы, адвучыць чалавека думаць аб усіх і за ўсіх, прывучыць яго быць задаволеным сабой і жыццём. Вось чаму мастак прыбег тут да паэтычнай мяккасці акварэлі, да цяпла каляровага алоўка, чаму ён дазволіў сабе толькі намёк на «дзіцячы малюнак». Ён раскрывае трагедыю героя Я. Корчака сродкамі лірыкі, і нават смутак тут светлы—ад любві і пяшчоты да свайго героя, ад глыбіні чалавечага спачування, якое нават у самай, здавалася б, безвыходнай трагедыі прымушае адчуць: няма тупіка—ёсць жыццё!..

Ілюстрацыі да «Пакорлівай» Ф. Дастаеўскага—лепшае з работ Б. Заборава на гэтай выстаўцы. Мастак—бясспрэчны майстар афорта.

Першы афорт адразу ж пагружае ў стыхію аповесці Ф. Дастаеўскага. Нейкая шэрая, безвыходная цемра; нават чорныя плямы ў гэтай шэрай, нерухомай і душнай імгле здаюцца праблескам жыцця; у гэтым пакоі замест паветра нібыта вуглекіслы газ. У цэнтры пакоя, на нейкіх двух кволых, маленькіх століках, ляжыць прамавугольная дамавіна, а ў ёй —жанчына ў белым, юная, кволая, са свечкай у руцэ і такім адчужаным у сваёй смерці тварам, што ён амаль шчаслівы. Гэта—ненатуральна і жахліва, але ва ўсім гэтым змроку, ва ўсёй гэтай затхласці, душнасці, беспрасветнасці дамавіна з жанчынай — нібы светлы востраў, нібы прытулак і прыстанішча, апошні аплот, які знайшоў для сябе чалавек. Над вокнамі таксама—дзве светлыя плямы: гэта трапечуць, гойдаюцца, б'юцца ўверх-уніз і зноў уверх-уніз фіранкі: толькі яны адны тут жывыя, толькі яны адны некуды яшчэ імкнуцца, чагосьці хочуць. А якраз між імі нерухомай масай, яшчэ больш цёмнай у цемры, выступае гадзіннік: стрэлкі рухаюцца, час незваротны, нічога нельга вярнуць, змяніць, паправіць...

У другім афорце—перадгісторыя і першапрычына трагедыі. Той жа шэры кашмар, што і ў першай і ва ўсіх астатніх работах: пустэльная імгла, якая больш непранікальная, чым турэмныя сцены. Яна, у сваёй белай сукенцы, паміж двух мужчын. Яны не глядзяць на яе, — глядзяць прама перад сабой, як манекены ў вітрыне. Абодва як бы дэманструюць самі сябе, прад'яўляюць «правы на валоданне». Той, што справа, зразумелы, як «двойчы два»: ён мяснік па прафесіі і па натуры, нешта несакрушальна тупое, несакрушальна самазадаволенае, несакрушальна нечалавечае ў сваёй пагардзе да ўсяго, што хоць колькі-небудзь на яго не падобнае. Свіныя галовы, што вісяць над яго галавой, выглядаюць паважнымі, ледзь не адухоўленымі, даволі толькі параўнаць іх з гэтай фізіяноміяй. Той, што злева, куды больш складаны. Усім, ад цыліндра і палачкі да выразу твару, ён хоча стварыць уражанне джэнтльменства і вялікай сілы «гаспадара гэтага свету». Усё ў ім, нават вочы, нібы зашпілена на ўсе гузікі; гэтыя вочы — не люстэрка, а ашчадны сейф душы. У яго твары ёсць і воля, і розум, і гонар, і нават пакуты, але галоўнае ў ім—гэта прытворства, маска. Гэты твар нібы складзены з прамых вуглоў і ў прамавугольнасці гэтай — духоўная жорсткасць і нецярпімасць хваравіта самалюбнага, слабога чалавека, які ўвесь без астатку заняты самасцвярджэннем і нават перад сабой іграе ролю. А жанчына ўжо здалася, ужо асудзіла сябе. І няхай яна ўсё яшчэ хістаецца, каго ж ёй выбраць, але некага з гэтых дваіх яна выбера абавязкова: супраць сваёй душы, пагадзіўшыся са сваім бяссіллем. Фіранкі ўверсе — як узмахі крылаў, але гэта ўжо дарэмна, ёй ужо не дапаможаш...

Трэці афорт—сама трагедыя. Два вузкія ложкі, як дзве дамавіны. Ложкі раздзелены столікам, і гэты столік, які штурхні—і паваліцца, становіцца тут перашкодай, непераадольнай, як «не кранi мяне»... Як «што агульнага паміж намі?!» На стале — пагаслая свечка і звязка ключоў: не, гэта не сімвал, канечне, і ніякая не алегорыя, але адчуванне такое, што святло ім толькі перашкаджае і што не будуць яны падбіраць адзін да аднаго ключоў, ужо лепш зусім памруць, пажыццёва замкнутыя кожны ў сваёй адзіноце. Глыбокая ноч, а яна—у сваёй белай сукенцы, — ён—у сарочцы і штанах... Нібы ім мала раздзеленых сваіх «трун», нібы яны і гэтым хочуць яшчэ больш адгарадзіцца адзін ад аднаго... Мы не бачым яе твару: яна сціснулася ў камячок, уткнулася ў падушку. Гэта не слёзы: яна не дазволіла б сабе, каб ён пачуў, як яна плача. Можа, яна думае. Можа, проста спіць. Яна—ахвяра, якая не мае сіл схавацца, але ў сілах — не ўпусціць у сябе позірк (міжвольны? або вольны?) свайго ка́та. А кат... Ён таксама падобны на ахвяру... Ён не спіць, ён глядзіць у той бок, дзе ляжыць яна. І нібы скрозь цемру спрабуе разгледзець нешта такое, чаму ён і сам не здолеў і хутчэй за ўсё не захацеў знайсці назвы. Зараз ён без маскі, і наколькі яго твар лепшы, маладзейшы, больш безабаронны, чым у сцэне выбару. У гэтым твары — не толькі смутак, але яшчэ і каханне, і нават пяшчота. Але ўсё гэта скавана, усё ў маўклівай згодзе з уяўнай і ўпартай воляй. Гэтая ўпартасць — у жорсткай нерухомасці цела, у той спробе спакою, якая ўсяго-наўсяго спроба не закрычаць, не прасіць, ну, хоць бы аб літасці... І аднекуль знутры ўзнікае ўпэўненасць: ён хутчэй заб'е сябе або заб'е яе, чым раскрые душу, чым пройдзе насустрач да гэтай, каханай, жанчыны хоць частку шляху, які іх падзяляе. Белае святло фіранак як бы рвецца развеяць цемру, як бы заклікае: ды ўстаньце, зразумейце адзін аднаго, пакуль не позна... Але ў тым і справа, што позна — не аб'ектыўна позна, а суб'ектыўна— не звонку, а знутры позна: асуджаныя ў сваёй слабасці і ў сваёй гардыні, у сваім страху перад сабой і перад іншымі, гэтыя героі Дастаеўскага самі стварылі пажыццёвасць свайго адчужэння... І нават смерць для іх — выхад. Які-ніякі, а выхад з безвыходнасці іх аднаспальных дамавін...







Б. ЗАБОРАЎ. З ілюстрацый да «Пакорлівай» Ф. Дастаеўскага.

Чацвёрты афорт — фінал, той непазбежны выхад, які павінна была знайсці трагедыя гэтых людзей: самазабойства «Пакорлівай»... Думка мастака завершана. Так, гэта трагедыя безвыходная, у гэтай трагедыі няма і не можа быць святла, але ў безвыходнасці і непрагляднасці — вінаваты самі людзі, толькі яны. Страх «згубіць сябе» — гэта прызнанне сваёй слабасці, гэта капітуляцыя перад жыццём. Адчужэнне — вынік нежадання зразумець адзін аднаго. А нежаданне зразумець — ад эгаістычнага страху разбурыць крэпасць адзіноты, узведзеную ўнутры сябе.

Такая ж, як думка мастака, што паслядоўна прытрымліваецца першакрыніцы, жорсткая і яго манера: нават псіхалагізм яе антылірычны, нават музыка жывапісных рытмаў служыць адзінай мэце — зняць з гэтай адчужанасці прываблівы і фальшывы «флёр» паэзіі. Увесь трагічны стыль серыі падначалены тут задачы выкрыць за «жывым» мёртвае, паказаць за трагедыяй, за бядой чалавечай — злачынства супраць жыцця.

Б. Забораў, як мастак, валодае майстэрствам пераўвасаблення: у кожнай новай рабоце ён зусім іншы і амаль заўсёды — арыгінальны. Але чым больш таленавіта мастак пераўвасабляецца, чым больш гнуткае яго майстэрства «ўжывання ў ролю», тым больш выразна ва ўсёй гэтай разнастайнасці, ва ўсёй гэтай непадобнасці праступае адзінства тэмы, якой мастак верны. У што б ні паглыбляўся ён, аб чым бы ні расказваў нам, больш за ўсё яго цікавіць: ці баіцца чалавек або не баіцца тых выпрабаванняў, якія ставіць жыццё, хоча ён ці не хоча «аддаць» сябе людзям, нават з рызыкай страціць усё — нават сваё жыццё. Вера ў людзей і ад гэтага бязлітаснасць да слабасці, выпрабаванне чалавека на бясстрашша — гэта і ёсць, як нам здаецца, тэма Б. Заборава, духоўная першакрыніца яго разнастайнай, унутрана цэльнай творчасці.

Г. ТРЭСТМАН,
К. ХАДЗЕЕЎ.



# ЁН ПІША ПРЫГАЖОСЦЬ

## Да 75-годдзя Б. Ф. ЗВІНАГРОДСКАГА

Зялёныя дубровы, бярозавыя гаі, блакітная роўнядзь рэк, цішыня люстраных азёр — такой паўстае перад намі Гомельшчына ў пейзажах заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Барыса Фёдаравіча Звінагродскага.

Больш як 50 гадоў назад прыйшоў Б. Звінагродскі ў вялікае мастацтва. Вучоба ў выдатнага ўкраінскага педагога С. Васількоўскага ў Харкаве, гады, праведзеныя ў майстэрні Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры, дойлідства, якой кіраваў не менш вядомы А. Архіпаў, далі вельмі многае Звінагродскаму як мастаку. Рэалістычны напрамак заўсёды вызначаў яго творчы шлях.

...Утульная майстэрня. У ёй — эцюды, эцюды... Глядзіш на іх — і адчуваеш водар маладой лістоты, пах духмянай травы, звон ляснога ручая.

— Прырода... Яна, як і чалавек, жыве сваім рытмам; яна ўся ў руху, у паўсядзённых зменах, — гаворыць Барыс Фёдаравіч. — Мастак павінен умець улавіць жыццёвы пульс прыроды, прыкмеціць у ёй характэрнае, тыповае. Для гэтага, зразумела, яе трэба толькі любіць.

У творчасці мастака трэба вылучыць цыкл работ пра Сож. Яны, бадай, больш за ўсё характарызуюць Барыса Фёдаравіча як удумлівага пейзажыста. Для мастака Сож не проста рака — прыгажуня. Яна — працаўніца, яе паўсядзённае жыццё звязана з чалавекам. Гэта выказана ў палотнах «Баржы на Сожы», «Сплаў лесу на Сожы», «Ля порта», «Земснарад на рацэ Сож».

Асабліва вызначаецца апошні з названых пейзажаў. Адзінства чалавека з прыродай тут перададзена вельмі арганічна. Палатно маляўнічае і прыгожае па колеры. Агульны каларыт краявіду светлы, радасны, пабудаваны на цёплых фарбавых спалучэннях.

Творы аб Сожы цікавыя і тым, што кожны канкрэтны матыў жывапісец падае праз прызму абагульнення. Найбольш ярка гэта праяўляецца ў пейзажы «Сож. Вялікая вада». Тут і эпічнасць і лірыка. Карціна прымушае не толькі любавацца веснавым разлівам, але выклікае і гонар за родныя мясціны, за беларускую зямлю. У «Сожы. Вялікай вадзе» аўтар па-майстэрску перадае глыбіню прастораў. У пейзажы няма рэзкіх граніц паміж планамі кампазіцыі, яны звязаныя цэльнай колернай гамай.

Наогул для твораў Б. Звінагродскага характэрны лаканічнасць кампазіцыі, мяккасць фарбавых спалучэнняў, насычанасць паветрам, паэтычны настрой.

Па сваёй натуры Б. Звінагродскі — мастак з тонкімі пачуццямі, які пастаянна шукае новае, які разумее — каб пераканаўча перадаць рэчаіснасць недастаткова жыць старым багажом.

— Кожны раз перада мной, — гаворыць Барыс Фёдаравіч, — ва ўсёй складанасці паўстае задача — выявіць у пейзажы істотныя рысы нашага жыцця.

«Мірнае неба» — менавіта з такіх работ. Над зямлёю высокае блакітнае неба. На ім — сляды толькі што праляцеўшых ракетаносцаў.

Перад намі ўсё новыя і новыя палотны жывапісца: «На лыжні», «Зімовы дзень», «Вясновы май», «Змрок на рацэ Прыпяць», «Сцяжынкі». Пейзажы розныя, а тэма ў іх адна — вось яна, родная зямля Беларусі, бясконца дарагая і блізкая сэрцу.

Б. Звінагродскі не толькі мастак, які займаецца творчай плённай працай, які прысвяціў сваё жыццё развіццю беларускага пейзажнага жывапісу. Мы ведаем яго і як педагога. Доўгі час ён выкладаў маляванне ў школах Гомеля, вёў заняткі ў студыі Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.

Барыс Фёдаравіч — вялікі прапагандыст мастацкай культуры. Сотні гамяльчан наведваюць факультэт выяўленчага мастацтва універсітэта мастацкага выхавання пры Палацы культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна, які ўзначальвае Б. Звінагродскі. Выступае ён і перад школьнікамі.

50 гадоў жыве і працуе на Гомельшчыне Барыс Фёдаравіч. І ўся скарбонка яго твораў — гэта гімн прыгажосці прыроды, гімн нашай зямлі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ.**

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# АДРАСАВАНА СЫРАКОМЛЮ

У ВІЛЬНЮС я ехаў з жаданнем пазнаёміцца з рукапісамі вядомага польска-беларускага паэта сярэдзіны XIX стагоддзя Уладыслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча) і высветліць заадно, ці былі якія-небудзь паперы ў яго ўнучкі Людвікі Былінскай, якая доўга жыла тут і памерла ў 1968 годзе.

Ад дырэктара гістарычнага архіва я даведаўся, што ўсе паперы Былінскай знаходзяцца ў архіве літаратуры і мастацтва. Пайшоў туды.

Супрацоўнікі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, як мне здалося, узрадаваліся, што, нарэшце, зацікавіліся фондам 96. Аказваецца, я буду яго першым чытачом.

За тыдзень я прагледзеў амаль усё, што мела непасрэднае дачыненне да Сыракомлі. Тут рукапісы некаторых твораў паэта, чарнавыя накіды, зробленыя ім на шматках паперы, а таксама эпісталярная спадчына шматлікіх яго карэспандэнтаў: сяброў і проста знаёмых, масцітых літаратараў і сціплых аматараў паэзіі.

Найбольшую цікавасць уяўляюць, вядома, пісьмы з Беларусі. Таму што адгэтуль Сыракомля прыйшоў у літаратуру, адгэтуль, пасля пераезду ў Вільню, а пазней у Барэйкаўшчыну, паэт заўсёды чакаў вестак. І яны прыходзілі — з Мінска, Гродна, Віцебска, Навагрудка, Нясвіжа, Пінска, Ігумена і іншых мясцін, як доказ таго, што тут ганарацца сваім земляком — «вясковым лірнікам» і зачытваюцца яго творамі.

З пісьма А. Рагальскага (4 лютага 1860 г.), былога настаўніка паэта, мы даведваемся, з якой непасрэднасцю ўспрымаліся сучаснікамі сыракомлеўскія творы ў Нясвіжы. Аб вялікай папулярнасці паэзіі «вясковага лірніка» ў Пінску сведчаць пісьмы Машынскага (1859 і 1860 гг.).

Звярталіся да паэта і з рознымі просьбамі. Напрыклад, Рафал Рэмбаровіч з Ігумена просіць пахадайнічаць наконт месца настаўніка (пісьмо ад 24 верасня 1856 г.). На сыракомлеўскую падтрымку пры ўладкаванні на працу ў Жытоміры разлічвае і гродненскі жыхар Міхал Койшар (пісьмо ад 16 кастрычніка 1859 г.). Клопаты, звязаныя з пашырэннем асветы ў краі, вымусілі 9 чэрвеня 1862 года паслаць запіску «вясковаму лірніку» Аляксандра Валіцкага, мінскага кнігара, а пазней—біёграфа Станіслава Манюшкі. Змест пісьма А. Ігнатовіча з Гарадка таксама тычыцца кніжных спраў.

Геаграфія пісьмовай сувязі Сыракомлі з Беларуссю даволі шырокая. Але найбольшую колькасць пісем ён атрымліваў з Мінска. Акрамя сяброўскай запіскі А. Валіцкага, аб якой ужо ўпаміналася, у архіве захоўваюцца пісьмы і іншых мінчукоў: мастака Адама Шэмеша, Януша Янушкевіча, Паўла Малышэвіча.

Пажоўклыя ад часу лісткі, не выбіваючыся за межы канкрэтна біяграфічнай з'явы, сведчаць аб глыбокай пашане нашых землякоў да свайго паэта, які, як сказаў Вінцэсь Каратынскі, «усю душу аддаваў дабру суайчыннікаў: думаючы пра іх, забываў аб іншым».

Пісьмо аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Арцёма Вярыгі-Дарэўскага да Сыракомлі, знойдзенае ў тым жа фондзе, мае асаблівую цікавасць. Яно раскрывае невядомую старонку ўзаемаадносін двух літаратараў, удакладняе некаторыя моманты творчай біяграфіі Вярыгі-Дарэўскага, пашырае наша ўяўленне аб светапоглядзе беларускага пісьменніка. Месца напісання пісьма—Віцебск, дата — 22 кастрычніка 1857 года. Без традыцыйнага звароту ці прывітання Вярыга-Дарэўскі пачынае: «Можа адбяру ў цябе хвілю самага дарагога часу на шкоду грамадству, але побач з тым святатацтвам стаўлю іншае: заморванне ў сабе мыслі, якая можа быць часткай той агульнай, што павінна нас ушчасліўціць, наблізіць да бога, калі кіруюся, як чалавек у заняпадзе, прывідам уласнай мыслі і мучуся нейкім агнём зямлі ці неба. Браце наш сардэчны, пашанаваны ў шчырых сэрцах Белай Русі кінь пяро, адлажы ўбок ліру, і запазнайся з душою, што промнямі тваіх натхненняў працята, хоча адкрыцца табе, як чулліва-сардэчная сястра брату. Вось прыношу табе большую частку маіх крэмзаляў; што мне з імі зрабіць? Ты ж хочаш усеагульнага шчасця. Скажы мне ўсё, ад усёй душы!».

Вярыга - Дарэўскі адпраўляе свае «крэмзалі» на суд Сыракомлі, таму што высока ставіць талент паэта, давярае яго літаратурнаму густу і спадзяецца на шчырую падтрымку: «Блаславі мяне або на крэмзалі ў поўным значэнні таго слова, або забі ва мне гэту фальшывую цягу, затушы гэты агонь, што можа ў анармальным стане мяне трымае, робіць шкоду гаспадарцы, якую люблю, бо маю кавалак зямлі, дзе можна паставіць драбінкі да неба, як выказваўся Тамаш Зан (польскі паэт—**У. М.**). і перашкаджае мне быць сапраўдным упаўнаважаным пры казённых установах, да чаго хоць і адчуваю агіду, аднак мучуся, бо блізкія майму сэрцу жонка і двое дзетак, маці і шматлікая сям'я, сяляне, давераныя апецы, і ўсё, што беднае, бо задумалася мне даць з сябе ўзор узмацнення сіл далоні і сэрца, зямлі і неба, бо мне хочацца той дасканаласці ў раўнавазе духа з целам, што Б. Трантоўскі (польскі філосаф—**У. М.**) залажыў. З прастадушнасцю па гэтаму,—працягвае Вярыга,—восем сшыткаў давяраю—ды ўсе яшчэ без прагляду канчатковага, а іменна 1. «Паўрот Міхалкі», 2. «Бедны наш Лукаш», 3. «Дзіця дзвюх матак», 4. «Бяседа над Нёманам», 5. «Нешта аб некім», 6. «Скрамней у бяседзе—не страцьце Быхава», 7. «Здабыццё Ахульгі», 8. «Яшка і Цімошка». З тых работак адну, калі б таго было варта, з радасцю ў «Тэцы віленьскай» убачыў бы змешчанай».

Выключна цікавыя звесткі. І перш, чым гаварыць пра іх значэн-

# ПРЫВІТАННЕ, ГАБРАВА! ЗДРАВЕЙ, МОГИЛЬОВ!

**Георгій ВЫЛЧАЎ** *Пісьмо з Сафіі*

ШМАТ РАДАСНАГА хвалявання прынеслі мне два кароткія зімовыя дні, якія я правёў у горадзе Габраве. Даўно збіраўся наведаць гэты вядомы наш балканскі горад. Не, я не першы раз знаёмлюся з Габравам, але ўпершыню прыехаў сюды, каб лепш, падрабязней распытаць пра дружбу гэтага горада з беларускім Магілёвам.

І столькі радасных хваляванняў прынесла мне хаджэнне па слядах вялікай дружбы, слядах вялікіх, рэальных, канкрэтных — і ў горадзе, і ў акрузе, столькі мае роспыты выклікалі ў людзей гэтага краю душэўнага хвалявання, цёплых успамінаў!

Белы снег засыпаў Габрава і балканскія вяршыні, і гэтае зімовае адзенне яшчэ больш наблізіла яго да паўночнага, беларускага брата — Магілёва. Суровая прырода і тут, і ў Магілёве нараджала смелых і знаходлівых людзей, якія пераўтваралі прыроду і самі мужнелі ў гэтай барацьбе. Будзённыя клопаты і настойлівая праца не пазбавіла людзей і прыгожых душэўных парыванняў. Наадварот, яшчэ больш развіліся іх мастацкія густы, разуменне непераходных каштоўнасцей культуры. У Габраве ў кожным кутку, скверыку, амаль ля кожнага доміка можна ўбачыць помнікі архітэктуры, скульптуры народнай творчасці ў той час тут многа буйных і сярэдніх заводаў. Помнікі не пакідаюць вас, куды б вы ні паехалі па акрузе, нібы рыхтуюць падарожніка да сустрэчы з манументальным помнікам вечнай нашай дружбы — «Шыпкай». Гэта там, на поўнач ад Габрава. І можа гэтыя энешнія акалічнасці паўплывалі на тое, што горад Габрава зрабіўся бастыёнам вялікай дружбы балгарскага і беларускага народаў. І гэта дружба, як невычэрпнае багацце, якім узаемна дзеляцца гарады-пабрацімы.

Часам Габрава называюць балгарскім Манчэстэрам. Так, бадай, гэта адзін з самых прамысловых нашых гарадоў. Нават кажуць, што тут і нараджалася балгарская прамысловасць перад сваім трыумфальным шэсцем па нашай зямлі. Можа і назавуць яго Манчэстэрам, хоць Манчэстэр ніколі не назавуць Габравам. У нашым горадзе ў адрозненне ад англійскага заўсёды высока цанілася непераходная каштоўнасць культурных здабыткаў. Тут ніколі не могуць папусціцца так, каб прамысловасць перамагла чалавека, зрабіла яго аўтаматам, прыдаткам механізмаў. Тут заўсёды пераможцам застаецца чалавек.

Прынята лічыць Габрава і габраўцаў сінонімамі скупасці. А гэта проста людзі, шчодра адораныя прыродай, — яны разумеюць гумар і самі распаўсюджваюць гэтыя чуткі і жарты аб сабе. Хіба не лепш лічыцца скупым, каб на гэтым фоне добра была відаць шчодрасць? А што да адносін з беларускім народам, дык гэты самы «скупы» горад праявіў больш шчодрасці, чым усе астатнія гарады Балгарыі.

Дык з чаго ж мне пачаць расказ пра гэтую дружбу? Столькі было ў габраўцаў з магіляўчанамі ўсякіх сустрэч, мерапрыемстваў, узаемных наведванняў.

Усіх сустрэч і размоў нават не ўспомню. Не назаву і ўсіх людзей, з кім гутарыў, чые захапляючыя ўспаміны слухаў. Для гэтага спатрэбілася б многа месца ў газеце, і ўсё роўна каго-небудзь забыў бы адзначыць. Скажу толькі, што ўсе, літаральна ўсе кіраўнікі акругі, горада, партыйныя работнікі, пачынаючы з першага сакратара акруговага камітэта БКП ў Габраве, грамадскія і прафсаюзныя дзеячы, інжынерна-тэхнічныя ра-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ




ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, якія не разумеюць жартаў. Узяць, да прыкладу, нашага бухгалтара Сыраежкіна — каторы ўжо год запар першага красавіка яго падманваюць, а ён у наступны раз зноў трапляе на вуду.

І цяпер — напярэдадні «дня манюк» — наш эканаміст Цімох Кулік папярэдзіў усіх супрацоўнікаў, што заўтра можна будзе пасмяяцца з Сыраежкіна.

Усё ішло, бы па пісаному. На досвітку Цімох пазваніў па тэлефоне Сыраежкіну і, старанна імітуючы голас упраўляючага, загрымеў у трубку:

— Таварыш Сыраежкін? Вы што ж гэта нарабілі ў квартальнай справаздачы? Зараз жа выходзьце на работу і разблытвайце сваю пісаніну.

Сыраежкін дрыжачым голасам паабяцаў да пачатку работы выправіць усе памылкі і, у сваю чаргу, запытаў:

— Прабачце, Леў Львовіч, а чаму вы Куліка звальняеце?

— Як гэга... звальняю? — папярхнуўся Цімох. — Што вы мелеце?

— Леў Львовіч, я ж сам бачыў у вас дакумент, дзе напісана, што патрэбен інжынер-эканаміст. Вы пры мне і ў рэдакцыю званілі, пыталіся, калі аб'яву надрукуюць. А ў нас жа адзін эканаміст — Кулік...

— Так... Але.., — працягнуў Цімох.

— Канечне, пустабрэх гэты Кулік,—не даў дагаварыць Цімоху Сыраежкін,—а ўсё ж ўлічыць трэба было б: малады ён яшчэ, зялёны...

Не даслухаўшы, Цімох паклаў трубку. Мільганула думка, што яго падманваюць, але ад Сыраежкіна гэтага чакаць немагчыма. Кулік набраў нумар дзяжурнай рэдакцыі.

— Скажыце, калі ласка, вы надрукавалі аб'яву з будаўніча-мантажнага трэста?

— Гэта пра інжынера-эканаміста? — перапытаў голас у трубцы. — Так, ідзе ў сённяшнім нумары...

Кулік не мог узняцца са стула. Ногі зрабіліся ватнымі, а ў галаве, нібы птушка ў цянётах, білася адзіная думка: «За што? Чаму менавіта мяне?» Але, пераадолеўшы слабасць, Цімох падняўся і, паснедаўшы, паплёўся на працу. Хаця — якая работа, калі ў цябе яе ўжо няма?...

Доўга чакаў Кулік ля кіёска свежых газет. Усё аказалася праўдай: на апошняй старонцы ў рамачцы, якая падалася Цімоху жалобнай, было надрукавана, што іхні трэст запрашае на работу вопытнага інжынера-эканаміста.

...Кулік убег у свой рабочы пакой і, не павітаўшыся, пачаў нешта хуценька пісаць. Затым выскачыў за дзверы.

— Я яму пакажу, як звальняць! — данеслася з калідора.

Супрацоўнікі здзіўлена пераглянуліся, а Сыраежкін падняў вочы ад папер і пакруціў галавою:

— Зноў нейкую штуку Кулік адпаліць хоча...

Тым часам Цімох уляцеў у кабінет Льва Львовіча і кінуў на стол паперу.

— Вось вам заява аб звальненні! Я не пацярплю здзекаў! Па ўласным жаданні!..

— Што з вамі, Цімох Архіпавіч? Што за жартачкі? —спачатку здзівіўся, а потым заўсміхаўся Леў Львовіч. — А, разумею, сёння ж першае красавіка.

— Я рабоце ўсю душу аддаю... А вы... Вам жартачкі?! — пачырванеў Цімох і падаў упраўляючаму газету. — Вось аб'ява...

— У чым справа, таварыш Кулік? Вы не ведаеце, што нам пашыраюць штаты? Я ж тэкст аб'явы яшчэ на мінулым тыдні аддаў у бухгалтэрыю...

Доўга стаяў Цімох, не рашаючыся ўвайсці ў свой кабінет. Калі ж ён, нарэшце, нясмела адчыніў дзверы, пакой выбухнуў смехам. Гучней за ўсіх рагатаў, аж заходзіўся... Сыраежкін.

Сеймур ДЖОЗЕФ

## ЭКАНОМІКА І НОРКАВЫЯ ФУТРЫ

**Выкрыццё таго факта, што лідэр рэспубліканцаў у палаце прадстаўнікоў Джэральд Р. Форд «не можа зрабіць справаздачу» аб адзінаццаці тысячах долараў, атрыманых на правядзенне леташняй восеньскай выбарчай кампаніі, не больш і не менш сенсацыйна, чым паведамленне пра тое, што новы міністр фінансаў Конэлі паклаў сабе ў кішэню пяцьсот семдзесят пяць тысяч долараў легальных ахвяраванняў, калі быў губернатарам штата Тэхас.**

**Я проста розуму не дабяру, чаму газеты ўзнялі такі вэрхал вакол абодвух інцыдэнтаў. Могуць падумаць, нібыта Форд і Конэлі ўчынілі крымінал. Што было б з краінай, калі б палітычныя дзеячы адмаўляліся ад грашовых падношэнняў і хабару? Мяне ўсяго аж калоціць ад гэтай думкі.**

**Ну, уявіце самі: буйны авіяцыйны фабрыкант прыязджае ў Вашынгтон і запрашае да сябе на абед сенатара, а потым гаворыць яму, што, калі з яго фірмай не падпішуць кантракт на будову новага самалёта-знішчальніка, дык дваццаць тысяч рабочых будуць выкінуты на вуліцу, трымальнікі яго акцый прададуць свае акцыі, фірма лопне, эканоміка горада пахіснецца, рэпутацыя рэспубліканскай партыі падмочыцца, а жонка ўцячэ ад яго. За дапамогу атрымаць кантракт прамысловец дасць сенатару дваццаць тысяч долараў, а сенатаравай жонцы купіць норкавую футру.**

**У сенатара тры альтэрнатывы: прыняць прапанову, проста адхіліць яе альбо адхіліць і давесці да ведама ўлад, што прадпрыймальнік спрабаваў падкупіць афіцыйнага палітычнага дзеяча.**

**Апошняе само сабой адпадае: у краіне свабоднага прадпрымальніцтва нельга кідаць бізнесменаў у турму. Калі перасаджаць за краты ўсіх бізнесменаў, што даюць хабар афіцыйным асобам, спыніцца бізнес. Хто ж тады будзе фінансаваць выбарчыя і іншыя палітычныя кампаніі?**

**Другая альтэрнатыва зусім магчымая: бываюць жа дзелавыя прапановы — іх можна, калі хочаш, прыняць, а калі не хочаш, не прыняць. Аднак кожны ведае, што сумленным здзелкам прыйшоў амаль поўны канец з наступленнем эры конскіх скачак і гонак на калясках. Гэта проста непрактычна, бо драбнеюць прыбыткі. І наадварот: ад брудных, спекулятыўных здзелак прыбыткі памнажаюцца, а бізнес квітнее.**

**Таму астаецца першае: прыняць хабар. Калі бяруць хабар, у выйгрышы ўсе — вытворчасць расце, рабочыя працуюць, эканоміка ідзе ўгору, палітычныя дзеячы працвітаюць, а жонкі іхнія ходзяць у норкавых футрах.**

**Хто церпіць страты? Ніхто. Нават бліжэйшы канкурэнт, які ў процілеглым канцы Капітолія, у туалеце, трымае за гузік чарговага кангрэсмена.**

**Вы нешта хочаце сказаць? Чаму ж усё-такі эканоміка кульгае? Адкуль такое беспрацоўе? Калі запытаеце, я вам скажу: па ўсім відаць, у нетрах урада прытаілася змоўніцкая група людзей, якія наадрэз адмаўляюцца браць хабар! Больш згубнага для краіны і ўявіць нельга. Яўная антыамерыканская дзейнасць.**

Пераклаў з англійскай
С. ДОРСКІ.

## ВАКОЛ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

**ІНТЭЛІГЕНТНАСЦЬ**

*Аднаму вельмі балбатліваму маладому літаратару, які ўжо добра ўсім уявярэдзіўся, Генрых Ман параіў:*

*— Калі вам хочацца нешта сказаць, абавязкова ўспомніце, што лепшая мера інтэлігентнасці — маўчанне.*

**ГАНАРАР**

*Сябар Эрвіна Кіша здзівіўся вялікаму ганарару, які той атрымаў за артыкул у адным з часопісаў.*

*— Калі прыкінуць, табе за кожны радок прыпадаюць ладныя грошы, — сказаў ён з'едліва.*

*Кіш кіўнуў:*

*— Так, а колькі іх было б, калі б мне плацілі яшчэ і за тое, што паміж радкамі.*

**ШЫРОКАЯ ЭРУДЫЦЫЯ**

*Альберт Эйнштэйн на лекцыі, якую ён чытаў у адным з амерыканскіх каледжаў, сказаў, між іншым:*

*— Калі аўтар лекцыі карыстаецца толькі адной кнігай, то гэта лічыцца плагіяцтвам. Калі ж ён прыводзіць шэраг цытат з розных крыніц, то гэта ўжо — шырокая эрудыцыя.*

З нямецкай пераклаў
Д. МАРОЗ.

Іван БАРКОЎ

## МІМАХОДЗЬ

**Усе добра ведалі, што ён бяззубы, але ўсёроўна раілі трымаць язык за зубамі.**

●

**Крот і той навучыўся адрозніваць дзень ад ночы.**

●

**Пляткар быў да таго запалоханы, што нават урачу адмовіўся паказаць язык.**

●

**Паэт набыў такую вядомасць, што нават і пасля яго смерці крытыкі не адважваліся вызначыць яго месца на Парнасе.**

Браты БАРОЎКІ

## КАСА І КАМЕНЬ

НА КАЛГАСНЫМ рынку да кабеты, якая прадае курыныя тушкі, падышоў пакупнік і, прывітаўшыся, спытаў:

— Колькі просіце, выбачайце, за гусака?

— Сем рублёў, як аддаць.

— Але ж нешта вашы гусакі падобны на качак.

— А гэта качкі і ёсць, добры чалавек.

— Сем рублёў за качку? Ці не занадта танна?

— Я не супраць, калі вы і накінеце які рубель.

— Накінуў бы, калі б гэта былі качкі.

— А то што ж?

— Самыя звычайныя куры, калі вачам сваім верыць.

— Дык вашы вочкі хлусяць часам?

— Бывае, што ліха і на веніку прыляціць.

— А пры чым тут ліха?

— Ліха будзе, калі я курыцу замест качкі дадому прынясу.

— Во, жонка ў вас, мусіць, і праўда порсткая, як сена шорсткае.

— Порсткая ці не, але не хачу, каб хадзіла, як чорная хмара.

— Пасля хмары заўсёды сонейка выглядае.

— Вось скажаце мне, дык, спадзяюся, хмары і зусім не будзе.

— Глядзіце вы! Я думала — гарадскі чалавек не разбярэ, а вы... Адрозніваеце нават скубленую курачку ад качкі.

— Не надта разбіраюся, але вось гэтая мне падабаецца.

— То й бярыце сабе рублёў за пяць.

— Вы ж сем прасілі.

— Што ўжо арлом варону называць. Цяпер так аддаю.

— Так? Не, не, дарма мне не трэба.

— Хто сказаў, што дарма? За чатыры рублі!

— Вазьму, але скажыце, калі ласка, гэта быў певень ці курка?

— Якая вам розніца, абы тлустая скурка.

— Я куплю не толькі скурку.

— Так, у скурцы і курку. Пабажыцца магу, што курка. І ўсяго за траяк!

— Значыць, курка?

— Не буду ж я плот гарадзіць пры такім натоўпе! Глядзіце, колькі людзей сабралася!

— Колькі ж годзікаў?

— Каму? Мне? У жанчын, добры чалавек, непрыстойна пра гады пытацца. А яшчэ гарадскі!

— Не хвалюйцеся, я маю на ўвазе курку. Колькі ёй годзікаў?

— Во, сказалі! Можа год і ёсць. І яйка ніводнага яшчэ не знесла!

— Тады, магчыма, гэта певень?

— Певень? За два рублі я вам пеўня аддала б?

— Дык курка ці певень?

— Курка! Курка! Сама ж даглядзела і рэзала!

— О! І не баяліся?

— На мяне, даражэнькі, за ўсё жыццё ніхто пуду не нагнаў. А курак мы для таго і заводзім, каб прадаць.

— Жывую і прадавалі б.

— Усёроўна ж вы, добры чалавек, самі б ёй галаву адкруцілі.

— Хто ведае, можа, і гадаваў бы.

— Гадуйце сабе на здароўе, я вам у наступную нядзелю і жывую прывязу, толькі заплаціць давядзецца не паўтары рубля, як за гэту. Дык будзеце купляць ці пераліваць з пустога ў парожняе?

— Куплю, але спачатку адкажыце на адно пытанне.

— Як семдзесят сем агнёў убачыць?

— Не.

— Чаму тлустую курыцу лягчэй абскубсці?

— Не.

— Што ж тады?

— Інкубатарныя ў вас курыцы ці не?

— Інкубатарныя! А якія ж яшчэ ў наш век павінны быць?

— І выседжаныя квактухай.

— Сказалі, як зорку схапілі! Я за рубель цэлы тузін пісклят куплю!

— Выгадна!

— А вы маю выгаду не лічыце, калі рубель за такую курыцу шкадуеце.

— Я не шкадую. Вось ён, новенькі.

Пакупнік аддаў рубель і пайшоў сабе дадому з тлустай курыцай у авосьцы, а суседка па гандлі падступілася да гаваркой кабеты і здзівілася:

— Як жа гэта ты, баба, аж да рубля з'ехала? З сямі!

— Што, да рубля? І праўда! Бацюхны, дзе ж ён? — яна памкнулася была бегчы ўслед за пакупніком, але раптам супакоілася. — Хай ласуецца сабе на здароўе. Яшчэ дзякуй яму, што адчапіўся, а то і да вечара магла б языком прамалоць і качак сваіх... цьфу, курак сваіх не прадала б.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 09655

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.